НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 14 (803) 10 красавіка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Асцярожна, экстрэмізм!

На гэтым месцы **мог быць фотаздымак**, але раптам у ім нехта ўгледзіць экстрэмізм? **Старонка 3.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН?

## У альбоме Belarus Press Photo пабачылі экстрэмізм, будзе суд

«**Наўмысна скажоныя** выдумкі пра жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь».

Фотажурналістаў Юлію Дарашкевіч, Аляксандра Васюковіча і Вадзіма Заміроўскага, арганізатараў конкурсу Belarus Press Photo, выклікаюць у суд у якасці «зацікаўленых асобаў». Паседжанне пройдзе 17 красавіка ў Ашмянах. Суд мусіць вырашыць, ці прызнаваць фотаальбом прызёраў конкурсу за 2011 год «экстрэмісцкім». Справу ў суд накіраваў начальнік упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці **Іван Корж**.

Гаворка ідзе пра 41 альбом, канфіскаваны 12 лістапада 2012 на мяжы з Літвой у Васюковіча і Дарашкевіч.

**Працяг на старонцы 3.**

### Жэстачайшэ

«Распрацаваць неадкладна»

Лукашэнка загадаў тэрмінова пракласці чыгунку да аэрапорта «Мінск-2». **Старонка 5.**



### Вялікая навука

Ці ёсць плагіят у дысертацыях чыноўнікаў?

І пра што яны ўвогуле? **Старонка 6.**



### Салідарнасць

Зварот у абарону

рабочых «Граніта» і выкладчыкаў з Гродна. **Старонка 7.**



### In memoriam

Піскуноў і спроба зламаць стэрэатып

Памёр стваральнік «Вялікага слоўніка беларускай мовы». **Старонка 11.**



**Дык падпісвайся!**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Як думаеце, якія з гэтых дысертацый маюць навуковую каштоўнасць?

• Адміністратыўна-прававыя праблемы барацьбы супраць п'янства і алкагалізму **(Чаргінец)**
• Дзейнасць органаў вайсковага кіравання па падтрымцы і ўмацаванні вайсковай дысцыпліны **(Мальцаў)**
• Навуковыя сістэмы тэсціравання ў сістэме няспыннага навучання матэматыцы **(Радзькоў)**
• Замежнаэканамічныя здзелкі: прававыя аспекты **(Пяткевіч)**
• Кіраванне ў аграпрамысловым комплексе пры фарміраванні рынкавых адносін **(Шапіра)**
• Умовы і фактары станаўлення рынкавай эканомікі ў Беларусі **(Мясніковіч)**

**Больш на тэму дысертацый топчыноўнікаў — старонка 6.**

## Мужчына вярнуў касірцы лішнія 53 мільёны

Здарэнне адбылося раніцай у пятніцу 29 сакавіка ў філіяле банка на вуліцы Прытыцкага ў Мінску.

Кліент прыйшоў абмяняць 600 еўра на рублі. Замест 6 млн 600 тысяч рублёў касірка (дарэчы, немаладая супрацоўніца) адлічыла яму 60 мільёнаў. Вось неяк нулі паблытала. Мужчына грошы ўзяў і сышоў.

Праз гадзіну выявілі недастачу. Служба аховы банка перадала запіс з камеры відэаназірання міліцыі. Праваахоўнікі распаўсюдзілі інфармацыю ў СМІ. І толькі пасля гэтага ўвечары ў аўторак мужчына вярнуў грошы ў банк. Ён пажадаў застацца невядомым, але папрасіў касірку забраць заяву з міліцыі.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Забілі за каструлю баршчу



Чацвёра беларусаў-будаўнікоў асуджаныя ў Расіі за забойства калег. Прысуд быў вынесены 28-гадоваму Сяргею Лабзову, 22-гадоваму Юрыю Ганковічу, 41-гадоваму Алегу Чыкмізаву і 32-гадоваму Аляксандру Афатніцкаму.

Яны пілі ў бытоўцы разам. Хтосьці перакуліў на падлогу каструлю з прыгатаванай ежай. Сварка хутка перарасла ў бойку, падчас якой раней неадназорова судзімыя Лабзоў і Ганковіч спачатку збілі сабутэльніка, а потым задушылі яго. Каб схаваць труп, яго расчлянілі... На гэтым яны не спыніліся, на іх сумленні яшчэ адно злачынства.

**Сямён Цыбульскі**

## У наіўнага касіра скралі 9 млн рублёў

Выпадак здарыўся ў Бабруйску.

36-гадовы мужчына быў частым госцем гульнёвага клуба. Адзін раз ён падышоў да касіра і кажа: «Я паспрачаўся з сябрам, што выйграў вялікую суму. Дай мне ўсе грошы, што маеш у касе. Я толькі пакажу сябру, выйграю тое, на што паспрачаўся, і адразу вярну назад». Легкаверны касір і аддаў грошы. А махляр пайшоў, і больш яго не бачылі.

За сваю наіўнасць касір страціў працу, яму таксама прыйшлося кампенсаваць 9 мільёнаў. А гулец прагуляў некалькі тыдняў, але папаў у рукі міліцыі.

Зараз ён можа трапіць у турму на 4 гады.

**Паводле БелТА**

### Дзякуй за падпіску на «Нашу Ніву»

Т.Ф. з Ліды.
Ірыне Х. з Гомеля.
Аляксандру А., Ларысе Я. з Полацка.
Г.С., Аляксандру С., Г.К., Анатолю Х. з Гродна.
Артуру Б. з Гродзенскага раёна.
Максіму Д., Івану Ф., Сяргею А. з Брэста.
Уладзіміру Д., Вользе Ж., Вользе П. з Барысаўскага раёна.
Аляксандру П., Андрэю Г. з Полацкага раёна.
Т.Ш. з Маладзечанскага раёна.
Уладзіміру Б., Валерыю П., Алесю Б. з Баранавіцкага раёна.
Т.К., Антону Т. са Смалявіцкага раёна.
Віктару К. з Рэчыцкага раёна.
Сяргею К. з Чашніцкага раёна.
Ларысе Ч., Міхаілу Т., І.Ф., Андрэю С., Алене С., Міхаілу Ж., Яўгену Ш., Уладзіміру М., А.Н., А.К., С.Г., Г.К., Аляксандру К., В.Ч., Д.В., А.А., Альберту С., П.Л., А.З., Паўлу Г., В.Г., Мікалаю Т., Кацярыне Ч., Міхаілу К., Ніне М., Вользе М., Валянціну Р., Аксане Л., Ігару Б., Э.С. з Мінска.

Здароўе

## Чырвонае мяса шкоднае для здароўя

Аказалася, удвайне.

Дактары даўно папярэджвалі пра шкоднасць чырвонага мяса для здароўя. Насычаны тлушч і халестэрын павышаюць рызыку інсультаў. Аказалася, справа не толькі ў тым. У чырвоным мясе ёсць карнітын. Гэтае рэчыва дапамагае дастаўляць тлустыя кіслоты ў клеткі, дзе яны служаць крыніцай энергіі. Але даследчыкі з Кліўлендскай клінікі высветлілі, што лішні карнітын у стрававальным тракце ператвараецца ў іншы метабаліт: так званы ТМАО, які выклікае атэрасклероз, звужэнне сасудаў.

Чырвонае мяса — гэта свініна, цяляціна, ялавічына, бараніна. Дактары рэкамендуюць не есці яго кожны дзень. Белае мяса — курыца, індычка — утрымлівае менш і халестэрыну, і карнітыну.

Спажыванне чырвонага мяса ў свеце падае з 1970-х гадоў.

Карнітын ёсць не толькі ў мясе. Яго дадаюць у некаторыя штучныя прадукты — напрыклад, энергетычныя напоі. І калі мяса арганізму трэба як крыніца бялку, проста не варта есці яго зашмат, то «энерджайзеры» зусім непатрэбныя.

Варта нагадаць, што не толькі перабор з халестэрынам нясе пагрозу здароўю. Курэнне, лішняя вага, сядзячы лад жыцця ўяўляюць найпершую пагрозу.

**Сяргей Гезгала**



### Сцісла

**Перад Радуніцай панядзелак будзе працоўны**

Працоўны дзень з пятніцы 10 мая перанесены на суботу 18 мая. А вось панядзелак перад Радуніцай будзе працоўны. Адпаведна, беларусы будуць адпачываць 1 мая (серада), ад 9 мая да 12 мая (чацвер—нядзеля) і 14 мая (Радуніца). Позняя вясна ссоўвае час пасадкі бульбы і іншыя вясновыя працы на сярэдзіну мая, таму лішні выхадны там быў бы людзям не лішні.

**Гендырэктар Мінскага мясакамбіната ўзяты пад варту**

Уладзіміра Лазоўскага падазраюць у атрыманні хабару.

**Слуцкую трасу давядуць па якасці да магілёўскай**

Пакуль што яна самая аварыйная дарога ў краіне. Патрабаванням аўтастрады пакуль у краіне адпавядаюць толькі дзве дарогі: М1 (Брэст—Мінск—мяжа Расіі) і М4 (Мінск—Магілёў). Цяпер вядзецца рэканструкцыя трасы М5 (Мінск—Гомель). Акрамя трасаў на Віцебск і Гродна, у лік трасаў першай катэгорыі ўвойдзе і дарога Мінск—Слуцк—Мікашэвічы.

**Выйшаў з начнога клуба і не вярнуўся**

31 сакавіка 20-гадовы Аляксандр Рэут выйшаў з аднаго з начных клубаў Маладзечна і знік. Больш сваякі яго не бачылі. Хлопца міліцыя абвясціла ў вышук. 8 красавіка яго цела знайшлі каля вёскі Адамовічы Цюрлеўскага сельсавета (Маладзечанскі раён).

**У Оршы адкрыюць лядовы палац**

Сканчаюць будаўніцтва дзякуючы дапамозе Беларускай чыгункі, якая выдзеліла дадатковыя $20 млн. Палац стане 32-м у краіне.

**У Гомелі двух мужчынаў жорстка збілі за зробленую заўвагу**

Прычым хто збіў? 19-гадовы і двое 17-гадовых. Сварка здарылася 31 сакавіка а 3.30 у бары «Свет більярда». Будзе крымінальная справа.

**СГ; БелТА; «Рэгіянальная газета»**

### Самае чытанае на nn.by за 3–9 красавіка

1 Нявеглівая кандуктарка: «Са мной трэба размаўляць па-руску»
2 18 трагедый Другой сусветнай, схаваных савецкай прапагандай — відэа
3 Зварот грамадзян у абарону рабочых «Граніта» і выкладчыкаў Гродзенскага ўніверсітэта
4 Актывісткі Femen раздзеліся перад Пуціным + відэа і фота
5 У альбомах Belarus Press Photo КДБ і ідэолагі знайшлі экстрэмізм, будзе суд
6 Памерла ўраджэнка Беларусі — адна з найбагацейшых жанчынаў свету
7 Першакрасавіцкія жарты ад СМІ: рэйтынг «НН»
8 Вольгу Класкоўскую арыштавалі: яе абвінавачваюць у замаху на забойства былога мужа
9 Прафесар Швед выступіў з адкрытым лістом: Маё звальненне — палітычнае
10 Belarusian, motherfucker! Do you speak it?!

# У альбоме Belarus Press Photo пабачылі экстрэмізм, будзе суд

Працяг са старонкі 1.

У канцы лістапада Ашмянскае аддзяленне мытні паведаміла Васюковічу, што друкаваная прадукцыя прызнаецца незаконнай і падлягае знішчэнню. Альбомы ўсё ж не знішчылі, але і фатографам не вярнулі.

Іх перадалі ў КДБ. На замову спецслужбы альбомы прайшлі «экспертызу», у якой паўдзельнічалі ідэолагі Гродзенскага аблвыканкама і супрацоўнікі Гродзенскага ўніверсітэта.

У адказе, атрыманым Юліяй Дарашкевіч, гаворыцца, што ў альбомах утрымліваюцца «наўмысна скажоныя, не адпаведныя рэчаіснасці выдумкі пра жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах, якія прыніжаюць нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Беларусі.

Падборка матэрыялаў альбома ў сукупнасці адлюстроўвае толькі негатыўныя аспекты жыццядзейнасці беларускага народа..., змяншае аўтарытэт дзяржаўнай улады, падрывае давер да органаў улады з боку замежных дзяржаў, замежных або міжнародных арганізацый».

Адзін з экспертаў, загадчык кафедры крымінальнага права і крыміналогіі юрыдычнага факультэта Гродзенскага дзяржуніверсітэта Вадзім Хілюта расказаў журналістам, што асабіста яму ў негатыўным кантэксце запомніўся «здымак пра службу ў беларускім войску». Гэта фота карэспандэнта «НН» Сяргея Гудзіліна, з якім ён перамог у 2011. Што такога экстрэмісцкага ў тым здымку, эксперт не канкрэтызаваў. Ён падкрэсліў, што ацэнка здымкам давалася агульная.

Сяргей Гудзілін адрэагаваў на навіну пра «экстрэмісцкі фотаальбом» аператыўна. На наступны дзень ён сфатаграфаваўся ў майцы з надпісам «Я фатограф, а не экстрэміст».

**Сямён Печанко**

**Камертон Сяргея Ваганава — старонка 8.**

**Belarus Press Photo**

штогадовы конкурс найлепшых фатаграфій, зробленых для СМІ. У альбом прызёраў конкурсу за 2011 трапілі ў тым ліку шматлікія фоты з падзеяў 19 снежня 2010, з Маўклівых пратэстаў лета 2011.

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Артыкул 33.**

Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

Ніхто не можа быць прымушаны да выказвання сваіх перакананняў або адмовы ад іх.

Манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі або асобнымі грамадзянамі, а таксама цэнзура не дапускаюцца.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Гэты здымак-пераможца Belarus Press Photo не спадабаўся гродзенскім экспертам.**



**Генерал Корж — чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй**

У Гродна Іван Корж прыехаў з Гомеля, дзе таксама ўзначальваў абласны КДБ. Менавіта ў час знаходжання Каржа на пасадзе былі заведзеныя першыя крымінальныя справы супраць «маладафронтаўцаў» за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі. У Гомелі КДБ неаднойчы трапляў у скандалы з вярбоўкай апазіцыйнай моладзі. Таксама Корж судзіўся са сваякамі фігурантаў «паляўнічай справы». Суд прызнаў: гонар, годнасць і дзелавая рэпутацыя Каржа былі закранутыя. Цяпер вось актыўнасць разгортваецца на новым месцы – звальненні выкладчыкаў, справа аб экстрэмізме. Чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

**Арганізатар конкурсу: Будзем працаваць далей**

Фотакарэспандэнт Вадзім Заміроўскі расказаў «НН», што ўвесь наклад альбома быў размытнены і свабодна прадаваўся. «Прычым ён не проста прадаваўся, а прадаўся. Заставалася 40 апошніх альбомаў, якія вазілі на выставы і якія ўрэшце сканфіскавалі. Да таго ж, у конкурсе ўдзельнічалі фатографы як незалежных, так і дзяржаўных СМІ, а самі фотаздымкі публікаваліся ў перыядычных выданнях і з'яўляліся ў стужках інфармацыйных агенцтваў».

Вадзім Заміроўскі кажа, што арганізатары маюць намер выпускаць наступны альбом. Ён прызнае, што скандал вакол альбома паўплывае на лёс наступных выданняў і сам конкурс. «Як мінімум, распаўсюд падобнай інфармацыі, які ніякім чынам нельга кантраляваць, можа стварыць стаўленне да фотаконкурсу як да нечага палітычна ангажаванага і адпудзіць ад яго магчымых удзельнікаў. Але ж насамрэч гэта не так — мы займаемся фатаграфіяй».

**Кірыла Хілько**

**Кароткая гісторыя «экстрэмізму»**

Восенню 2008 суд Кастрычніцкага раёна Гродна прызнаў экстрэмісцкімі фільм «Урок беларускай мовы» Міраслава Дэмбіньскага і запіс канцэрта «Салідарныя з Беларуссю», які праходзіў у Варшаве 12 сакавіка 2006. Гэтыя матэрыялы, а таксама дыскі з фотаздымкамі падзеяў Плошчы-2006 былі канфіскаваныя на польска-беларускай мяжы ў магілёўскага актывіста Аляксандра Буракова.

У тым самым годзе гродзенскі КДБ спрабаваў завесці справу, абвінавацўшы ў экстрэмізме шэраг журналістаў і грамадскіх актывістаў з усёй Беларусі. Сярод магчымых «экстрэмісцкіх» матэрыялаў разглядаліся газета непрызнанага Саюза палякаў Głos znad Niemna na uchodźstwie, кніга Паўла Севярынца «Лісты з лесу», матэрыялы І Кангрэсу дэмсіл, улётка Аляксандра Мілінкевіча.

У кастрычніку 2008 на беларуска-польскай мяжы ў Брэсце былі канфіскаваныя 10 асобнікаў часопіса ARCHE (№№7—8). Іх накіравалі на экспертызу, УКДБ па Брэсцкай вобласці патрабавала прызнаць іх «экстрэмісцкімі матэрыяламі, якія падлягаюць знішчэнню». Урэшце, справа нічым не скончылася.

**Закон РБ «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму»** дзейнічае з 2007. Паводле арт. 1 закона, пад паняцце экстрэмізму падпадае не толькі дзейнасць, накіраваная на гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу альбо захоп улады некантытуцыйным шляхам, але і распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, сацыяльнай варожасці, прыніжэнне нацыянальнага гонару і годнасці, арганізацыя і ажыццяўленне масавых беспарадкаў і г.д. Экстрэмісцкія матэрыялы — гэта інфармацыйная прадукцыя, якая ўтрымлівае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці, прапагандуе яе, прызначаная для распаўсюду і прызнаная экстрэмісцкімі матэрыяламі па рашэнні суда.



НАТАЛЛЯ АБЛАЖЭЙ



...рситет им. Я. Купалы...
...ских наук, доцент; Шульга Окса...
...кафедрой иностранных языков №1 УО...
...енный университет им.Я.Купалы», образован...
... психологических наук, доцент кафедры общей и ...
...логии и Бондарь Александр Гилярьевич, старший препо...
...дры дизайна факультета искусств и дизайна УО «Грод...
...ударственный университет им.Я.Купалы», образование высшее.

18 марта 2013 года справка экспертной комиссии поступил... управление КГБ Республики Беларусь по Гродненской области, из котор... следует, что в фотоальбоме «Прэс-фота Беларусі 2011» содержат... умышленно искаженные, не соответствующие действительност... измышления о жизнедеятельности Республики Беларусь в политической, экономической, социальной и иных сферах, унижающие национальную честь и достоинство граждан Республики Беларусь.

Подборка материалов фотоальбома в совокупности отражает лишь негативные аспекты жизнедеятельности белорусского народа с собственными измышлениями и выводами автора, что с точки зрения социальных норм, принятых в обществе и нравственности, унижает национальную честь и достоинство граждан Республики Беларусь, умаляе... авторитет государственной власти, подрывает доверие к органам власти ... стороны иностранных государств, иностранных или международ... организаций.

В соответствии со ст.1 Закона Республики Беларус... ...одействии экстремизму» деятельность граждан по сове... ...й, направленных на унижение национальной чести и д... ...экстремистской.

...изложенного, в соответствии со ст.361 ГП... ...Закона Республики Беларусь «О...

**Самы экстрэмісцкі здымак з альбома.**

# Шведскае пасольства адновіць дзейнасць



Шведскія сцягі зноў залунаюць над пасольствам.

PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Хартыя-97» крытыкуе гэты кампраміс.**

Міністр замежных спраў Швецыі Карл Більт у сваім Твітары паведаміў пра хуткае вяртанне шведскіх дыпламатаў у Мінск. «Пасля пэўных складанасцяў неўзабаве мы зноў накіруем часовага паверанага ў справах кіраваць нашым пасольствам у Мінск (Беларусь). Гэта добра для кожнага», — напісаў Більт.

«Перш этап гандлю завершаны. Не буду каментаваць — гэта выдатна за мяне зробяць Мілінкевіч, Янукевіч і Някляеў», — напісаў рэжысёр «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін.

Лідары Руху «За Свабоду», Партыі БНФ і «Гавары праўду» напярэдадні звярнуліся да кіраўніцтва Еўрасаюза. «Мы ўпэўненыя, што толькі вяртанне да паўнавартаснага дыялогу і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам істотна пашырыць магчымасці нашай краіны і грамадства для мадэрнізацыі і пабудовы дэмакратычнага ладу», — гаворыцца ў заяве. Падпісанты адзначылі, што паўнавартасны дыялог будзе магчымы толькі ў выпадку вызвалення палітвязняў.

Экс-кандыдат у прэзідэнты палітэмігрант Андрэй Саннікаў негатаўна адрэагаваў на гэтую прапанову: «Сваю заяву кіраўнікі трох арганізацый назвалі «Больш Еўропы для Беларусі», хоць чытаецца яно як «Хочам легітымную дыктатуру». Менавіта гэтая мэта стаіць за ўсімі слоўнымі практыкаваннямі».

Саннікаў застаўся верным ідэям увядзення санкцый супраць Беларусі: «Нават рэзкія заявы, не кажучы ўжо пра кропкавыя санкцыі, дапамагалі нам выжыць у турмах і калоніях. Аднак сёння мы ўжо даўно не чуем такіх заяваў: ні з боку Еўрасаюза, ні з боку асобных дзяржаў. Наадварот, усё больш эмісараў спрабуюць нас супакоіць, пераканаць у тым, што палітвязняў вось-вось выпусцяць. Але нічога не адбываецца».

Тым часам у Беларусь прыязджаў міністр замежных справаў краіны Еўрасаюза (Латвіі). Хай і наведваў ён толькі памежныя тэрыторыі, але такіх візітаў не было з часу «лібералізацыі» 2008–2010. Тым часам палітвязні застаюцца ў турмах. Праўда, новых вязняў сумлення не дадаецца.

**Зміцер Панкавец**



## Радзіна: КДБ угаворвае праз сваякоў, каб я вярнулася

Рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна апошнія два гады вымушаная жыць за межамі Беларусі. Цяпер яна ў Варшаве, адкуль рэдагуе сайт.

З Беларусі Радзіна з'ехала пасля прэзідэнцкіх выбараў-2010. Тады яна была затрыманая 19 снежня і прабыла ў турме КДБ («амерыканцы») да 28 студзеня. Пасля гэтага Радзіна мусіла з'ехаць у Кобрын, дзе прапісаная.

«Цяпер у КДБ выклікаюць маіх сваякоў. Не хачу казаць каго, але не тату з мамай. Просяць, каб пераканалі мяне вярнуцца на Радзіму. Кажуць: «Калі будзе весці сябе разважліва, то ўсё ў яе будзе добра». Пераконваць іх бессэнсоўна», — кажа Наталля Радзіна.

Радзіна тлумачыць такую актывізацыю тым, што афіцыйнаму Мінску патрэбны «новы дыялог з Еўрасаюзам, новыя крэдыты».

**ЗП**

## Генерал КДБ напісаў песню «Посажу возле дома березку»

«Сёння пісьменнік мусіць цікавіцца палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай сферай жыцця, — задаваў тон прэс-канферэнцыі пісьменнік экс-сенатар Мікалай Чаргінец. — Расіі, напрыклад, вельмі патрэбныя нашыя трактары, вельмі патрэбныя МАЗы і БелАЗы. Сучасны пісьменнік мусіць ведаць пра гэта, таму цяпер пісаць варта не толькі пра каханне, але і адказваць на пытанне, як нам жыць у рамках дзвюх краін».

Старшыня пралукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец і сакратар Георгій Марчук расказалі пра ролю пісьменніка ў станаўленні саюзнай дзяржавы падчас спецыяльнай прэс-канферэнцыі ў Мінску 9 красавіка. Разам з імі паразважаць пра будучыню супольнай пісьменніцкай дзейнасці прыйшлі рэдактарка газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец і генерал КДБ Іван Юркін, які нядаўна адкрыў у сабе паэтычны дар.

Пісьменнікі расказалі, як адчас сумеснага пленума ў Брэсце іх расійскія калегі змаглі на свае вочы пабачыць Беларусь. «Яны былі вельмі ўражаныя і прапанавалі зрабіць Брэст культурнай сталіцай саюзнай дзяржавы, — кажа Чаргінец. — Іх уразіла Брэсцкая крэпасць, мы ім паказалі аграгарадкі. Канечне, тыя, што лепей глядзяцца — не калгас «30 гадоў без ураджаю». Мы выпускаем супольны часопіс «Белая вежа», аднак пакуль няма на яго грошай, каб ён выходзіў накладам болей за тысячу асобнікаў! Урэшце, мы — адзінае культурніцкае аб'яднанне саюзнай дзяржавы».

Пытанне фінансавання саюзных праграм натхніла Георгія Марчука на разважанні пра любоў да роднага краю.

«Вось мы тут шмат гаворым пра патрыятызм, — працягнуў ён. — У Расіі тыя самыя праблемы: скарачаюць школьную праграму па расейскай літаратуры, у нас скарачаюць па беларускай. І невядома, як з 38 пісьменнікаў абраць тых, каго варта праходзіць у школе».

Па словах Марчука, пісаць пра патрыятызм увогуле складана: «У Расіі як напішаш слова «рускасць» — адразу ліберальная прэса назаве «фашыстам», «карычневым» і «нягоднікам».

Да аналогіі, што бывае ў Беларусі за беларускасць, справа чамусьці не дайшла.

Сярод іншых няпростых літаратурных клопатаў турбуе Мікалая Чаргінца і адсутнасць добрых новых песняў. Саюзу пісьменнікаў нават давялося запачаткаваць спецыяльны конкурс для іх стваральнікаў, кажа ён. «Але ёсць у нас пісьменнік Іван Юркін, дзіцячы аўтар, які зрабіў вялікі прарыў у гэтым жанры!»

Генерал запасу Іван Юркін служыў у КДБ з 1976 года. І вось нядаўна, як прызнаўся журналістам, адкрыў у сабе талент: «Я і не ведаў да мінулага года, што магу пісаць песні. Але раптоўна напісаў тэкст «Посажу возле дома березку». Песню на гэты тэкст выканаў Якаў Навуменка на 8 сакавіка, і жанчынам настолькі спадабалася, што ледзь не разарвалі мяне на сувеніры.

З таго часу я напісаў каля дваццаці тэкстаў, дванаццаць з іх узяў Анатоль Ярмоленка. У мяне некалькі тэмаў: каханне да жанчын, да роднага краю, пра свята перамогі.

Найвялікшы поспех — песня на мае словы «Прыязджайце да нас у Беларусь» стала летась песняй года».

**Юрась Ускоў**

## Сцісла

### Лукашэнка выступіць 19-га

Штогадовае пасланне да народа і парламента сёлета адбудзецца 19 красавіка. Зноў будзе транслявацца на ўсіх тэлеканалах.

### Партыя БНФ верыць у выбары

Сойм Партыі БНФ прыняў рашэнне, што сябры арганізацыі возьмуць паўнаварны ўдзел у мясцовых выбарах-2014. Партыйцы лічаць, што мясцовыя выбары — гэта легальная магчымасць дайсці да выбарцаў.

### Нарвежскі замест расійскага

Літва гатовая набываць газ у Скандынавіі пасля пабудовы тэрмінала ў Клайпедзе для прыёму звадкаванага паліва. Нарвежскія газ і электрычнасць могуць дапамагчы паменшыць залежнасць ад Масквы, мяркуе прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце.

### Памёр палітолаг Віктар Чарноў

Яму было 57 гадоў. Прычына смерці — анкалогія. За тры гады да гэтага памерла жонка Віктара. Чарноў шмат выкладаў. Быў сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

### Справу Гайдукова мурыжаць

Следства па справе жыхара Наваполацка, 23-гадовага Андрэя Гайдукова, абвінавачанага ў «здрадзе дзяржаве шляхам агентурнай дзейнасці», прадоўжана яшчэ на месяц, да 8 мая.

### Дарафееў перайшоў на Януковічаў канал



Былы тэлевядучы канала АНТ Сяргей Дарафееў, які пераехаў працаваць ва Украіну, пераходзіць з незалежнага «5 канала» на канал «Інтэр», падкантрольны Сяргею Лёвачкіну — кіраўніку адміністрацыі прэзідэнта Віктара Януковіча. Першае інтэрв'ю на новым месцы будзе з патрыярхам Кірылам.

**ЗП**

# «Распрацаваць неадкладна»

Лукашэнка загадаў тэрмінова **пракласці чыгунку** да аэрапорта.

Пасля сустрэчы з генеральным дырэктарам швейцарскай кампаніі «Штадлер Рэйл Груп» Петэрам Шпулерам Аляксандр Лукашэнка загадаў «неадкладна распрацаваць праект чыгуначнага злучэння беларускай сталіцы з аэрапортам». Такое даручэнне ён даў ураду і кіраўніцтву Беларускай чыгункі. «Людзі змогуць больш карыстацца паслугамі аэрапорта, бо даехаць да яго будзе лёгка. Цяпер жа гэта пэўная праблема», — перакананы ён.

У аэрапорт з Мінска і назад штодня адбываецца 30 рэйсаў аўтобусаў, і гэта цалкам забяспечвае патрэбы аэрапорта. Праезд каштуе каля 15 тысяч рублёў. Складана дабрацца толькі ўначы ад 1-й да 5-й гадзіны, калі аўтобус не ходзіць. Тады застаецца ехаць на таксі, заплаціўшы каля 300 тысяч рублёў.

Пасажыразваварот у «Мінск-2» летась дасягнуў 1,82 мільёна чалавек. За апошнія тры гады ён вырас амаль удвая, але ўсё адно саступае віленскаму **(глядзі ўрэзку)**, які беларусы жартаўліва называюць аэрапортам «Мінск-3». Праз высокія тарыфы «Белавія» на многіх кірунках танней вылятаць з Вільні. Хоць Літва меншая за Беларусь у 3 разы, з Вільні лятае больш пасажыраў, чым з Мінска.

Улады спадзяюцца, што папулярнасць сталічнага аэрапорта павялічыцца пасля рэканструкцыі, падчас якой кітайцы пабудуюць другі тэрмінал і ўзлётна-пасадачную паласу. Аднак гэты праект адкладаецца чарговы раз.

Падрыхтоўчыя працы да адкрыцця электрычкі не павінны быць дарагімі. Па словах Лукашэнкі, праект варта рэалізоўваць з улікам існуючых чыгуначных ліній. Грузавая станцыя Шэметава знаходзіцца каля аэрапорта. У бок Смалявічаў адтуль ідзе аднакалейная чыгунка. Каб «разварнуць» цягнік на Мінск, дастаткова пракласці 2—3 км каляі і ўрэгуляваць магчымыя зямельныя канфлікты з дачнікамі. Лукашэнка настроены па-сур'ёзнаму: «Варта прыпыніць некаторыя праекты дзяржаўных праграм, каб накіраваць сродкі на забеспячэнне руху пасажырапатоку ў аэрапорт і назад». Па яго планах, электрычка запрацуе ўжо ў канцы 2014 года. Аднак ці будзе яна камерцыйна паспяховай з такой невялікай колькасцю пасажыраў?

Падобны фармат аэраэкспрэсаў працуе ў многіх гарадах, з суседніх сталіц — у Вільні і Маскве. У сталіцы Літвы адлегласць ад цэнтра да аэрапорта складае ўсяго 4 км. Цягнік на 90 месцаў ідзе кожную гадзіну, знаходзіцца ў дарозе 7 хвілін. Літоўская чыгунка не пралічвае прыбытковасць канкрэтна гэтага рэйса.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пасажыраабарот нацыянальных аэрапортаў** (тысяч чалавек, у 2012)

Варшава — 9 587 *
Барыспаль (Кіеў) — 8 471 *
Рыга — 4 768
Вільня — 2 208 *
Талін — 2 207
Мінск — 1 822
Кішынёў — 1 220

* Міжнародныя аэрапорты дзейнічаюць і ў іншых гарадах краіны.

У Мінск жа давядзецца ехаць каля 40 км. Тры асноўныя маскоўскія аэрапорты, агульны пасажыразварот якіх складае каля 70 мільёнаў чалавек, знаходзяцца на такой самай адлегласці ад цэнтра. Чыгуначнае злучэнне з імі забяспечвае кампанія «Аэраэкспрэс». Кошт праезду складае каля 90 тысяч беларускіх рублёў. Дзякуючы цягніку, пасажыры могуць не стаяць у заторах на маскоўскіх трасах. У выніку ў 2011 і 2012 «Аэраэкспрэс», які, апроч Масквы, працуе ў Сочы і Уладзівастоку, атрымліваў чысты прыбытак памерам $14—15 мільёнаў.

...Дагэтуль загад працаваць «неадкладна» Лукашэнка даваў у кастрычніку 2005, падчас старту стварэння Парка высокіх тэхналогій. Першыя кампаніі адкрыліся ў ім ужо праз 8 месяцаў.

**Ягор Марціновіч**

# «Газпрам» сплаціць $35 мільёнаў за знос аўтавакзала «Маскоўскі»

Лукашэнка **аддае зямлю па $208**.

Лёс сталічнага аўтавакзала «Маскоўскі» вырашаны, нягледзячы на подпісы мясцовых жыхароў, якія выказваліся супраць яго зносу. Згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі, на месцы вакзала ў 2013—2018 будзе пабудаваны шматфункцыянальны комплекс — гатэль, паркінг, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, медыцынскі цэнтр. Зямлю пад забудову атрымала дачынае прадпрыемства «Газпрама» — «Белтрансгаз». Гаворка пра будаўніцтва вялася з мінулага года, але цяпер канчаткова вырашана, якую кампенсацыю сплаціць Лукашэнку расійская карпарацыя.

За права атрымаць у арэнду зямельны ўчастак плошчай 8,27 га «Газпрам» заплаціць $17,2 мільёна. Гэта $2,08 млн за гектар. Апроч таго, $13,7 мільёна давядзецца заплаціць за непасрэдны знос будынка і $3,3 мільёна сацыяльнай нагрузкі — на будаўніцтва дома для шматдзетных сем'яў. На «Газпрам» ускладуць яшчэ і 50% ад кошту будаўніцтва развязкі на скрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава.

У якасці кампенсацыі кампаніі дазволяць увозіць да канца 2018 тавары, патрэбныя для будаўніцтва, без мытаў і падаткаў на дадзеную вартасць.

**ЯМ**



**Будоўля на мільярд**

Самая гучная будоўля «Газпрама» — офісны «Лахта-цэнтр» вышынёй 460 м на ўскрайку Санкт-Пецярбурга. Падрыхтоўчыя працы ўжо пачаліся, але канчатковы кошт праекта яшчэ не пралічаны. Імаверна, ён будзе складаць $1—2 мільярды.

# Заснавальнік «Мотаршоу» саступіў друкарню Дзмітрыю Лукашэнку

Дзяржпрадпрыемствам раяць супрацоўнічаць з «Першай узорнай друкарняй».

Мінская «Першая ўзорная друкарня», заснаваная некалькі гадоў таму на парытэтных умовах рэкламным агенцтвам «Рэмарк» і РДГА «Прэзідэнцкі спартыўны клуб», нядаўна перайшла пад поўнае кіраванне грамадскага аб'яднання, якое ўзначальвае сярэдні сын кіраўніка дзяржавы Дзмітрый Лукашэнка.

Найбольшую вядомасць рэкламнаму агенцтву «Рэмарк» прынесла правядзенне ў Мінску міжнародных аўтасалонаў, у прыватнасці «Мотаршоу». Кампанію кантралюе Дзмітрый Ярота. Некалькі гадоў таму ён стаў наменнікам генеральнага дырэктара па стратэгічным маркетынгу расійскай кампаніі «Ё-Аўта». «Цяпер ільвіную долю майго часу адымае праца на «Ё-Аўта». Я ўжо не мог надаваць шмат часу друкарні і вырашыў выйсці з гэтага праекта», — растлумачыў Ярота.

У пачатку гэтага года «Прэзідэнцкі спартыўны клуб» застаўся адзіным заснавальнікам мінскай друкарні. І стаў даволі агрэсіўным гульцом на рынку. У інтэрнэце з'явіўся ліст першага наменніка канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Генрыха Чарняка, у якім ён рэкамендуе кіраўнікам прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у канцэрн, пры



Дзмітрый Ярота.



Дзмітрый Лукашэнка.

«правядзенні конкурсных працэдур па закупе этыкетачнай прадукцыі запрашаць да ўдзелу ў конкурсе і «Першую ўзорную друкарню».

Акрамя таго, кіраўнікі прадпрыемстваў былі абавязаны ў пісьмовым выглядзе інфармаваць аб прапрацоўцы пытання па магчымым супрацоўніцтве з «Першай узорнай друкарняй», а таксама даць інфармацыю аб сёлетніх пераможцах тэндараў і ў выпадку, калі «ўзорная» друкарня ўдзельнічае ў тэндары, але не стала пераможцам, паведаміць прычыну гэтага.

**Аляксандр Заяц, Tut.by**

## Сцісла

### Хто з еўрапейцаў дапамагае найбольш?

Еўрасаюз застаецца найбуйнейшым донарам у свеце. На рэалізацыю праектаў дапамогі іншым краінам летась Еўропа падарыла 50,2 мільярда еўра. Найбольшымі сумамі падзяліліся Вялікабрытанія (10,6 млрд), Германія (10,2 млрд), Францыя (9,3 млрд), Нідэрланды (4,2 млрд) і Швецыя (4,1 млрд).

### Работнікаў хочуць перавесці на карткі

Нацбанк зацвердзіў план, скіраваны на павелічэнне долі безнаяўных разлікаў у гандлі і пры аплаце паслуг. Да 2015 заробкі ўсіх работнікаў паспрабуюць перавесці на банкаўскія карткі. Выняткам можа быць зроблены хіба што для вяскоўцаў.

### Гандлёвым сеткам забароняць займаць на рынку больш за 20%

Парламент разгледзіць змены ў закон «Аб дзяржаўным рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання», які прадугледжвае абмежаванне для буйных гульцоў гандлёвага рынку. Ім дазволяць займаць на рынку не больш за 20%. Калі доля дасягнута, сеткам будзе забаронена набываць ці арандаваць дадатковую гандлёвую плошчу.

### Кітай крэдытуе яшчэ на $322 млн

Грошы Экспартна-імпартнага банка Кітая будуць патрачаныя на рэканструкцыю дарогі Бабруйск—Жлобін на трасе М5 Мінск—Гомель.

**ЯМ**

# Ці ёсць плагіят у дысертацыях беларускіх чыноўнікаў?

У Расіі працягваецца барацьба з «ліпавымі дыпломамі». Яна дайшла да самага верху — прэм'ер-міністр Дзмітрый Мядзведзеў правёў нараду з нагоды скандалаў з выкрыццём псеўданавукоўцаў. «Абарона дысертацый ператварылася ў прадмет дзяржаўнай кар'еры, — абурыўся ён. — Гэта дыскрэдытацыя расійскай навукі».

Расійскія блогеры з дапамогай інтэрнэт-сэрвісу «Антыплагіят» пачалі правяраць дысертацыі дэпутатаў і чыноўнікаў. Працэнт плагіяту зашкальваў. У спіс махляроў трапілі сын Жырыноўскага, губернатар Кіраўскай вобласці. У дзясятка фальшывых навукоўцаў званні адабралі.

«Наша Ніва» вырашыла праверыць на плагіят дысертацыі беларускіх чыноўнікаў. А заадно даведацца, пра што іх навуковыя працы.

## Дзе знайсці беларускія дысертацыі?

У Беларусі навуковыя званні прысуджае Вышэйшая атэстацыйная камісія (ВАК). Яна ж выстаўляе на сайце аўтарэфераты абароненых дысертацый.

Дыскаў з базамі дысертацый не знайшлося ні ў інтэрнэце, ні на сталічных рынках (у Расіі такія базы можна набыць на кожным кроку).

Аўтарэфераты і дысертацыі знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Каб трапіць у залу дысертацый, трэба пісаць хадайніцтва. У электронным выглядзе тут захоўваюцца 4000 дысертацый, абароненых пасля 2005. Астатнія — пакуль на паперы.

Капіяваць нельга, можна за грошы раздрукаваць пэўныя старонкі. Хоць гэтае абмежаванне лёгка абыходзіцца. Так у нашых руках апынуліся электронныя версіі «свежых» дысертацый. Іх аўтары — галоўная доктарка Лечкамісіі **Ірына Абельская**, праўладны палітолаг **Сяргей Кізіма**, былы дырэктар Нацпарку «Белавежская пушча» **Мікалай Бамбіза** і дэпутат **Генадзь Пальчык**.

## Патэнты доктара Абельскай і прагнозы кандыдата Кізімы

Доктарская праца Ірыны Абельскай называецца «Шыйны астэахандроз: прамянёвая візуалізацыя і тэхналогія медычнай рэабілітацыі пацыентаў». Яе навуковы кансультант — доктар медыцынскіх навук Анатоль Міхайлаў. Ва ўступе тлумачыцца, што Абельская самастойна правяла рэнтгеналагічнае абследаванне 421 пацыента з неўралагічнымі праявамі шыйнага астэахандрозу. «Унёсак суіскальніка ў напісанне сумесных публікацый» склаў 75%.

Па тэме дысертацыі Абельская напісала 57 навуковых прац, 24 артыкулы ў навуковых часопісах, 30 публікацый у зборніках навуковых прац. Большасць была апублікаваная на тэрыторыі Беларусі і Расіі, адна — у Польшчы. Абельская — аўтар чатырох патэнтаў і трох інструкцый па ўжыванні пяці рацыяналізатарскіх прапановаў.

Расійская сістэма «Антыплагіят» выставіла дысертацыі індэкс «99% арыгінальнага тэксту». Праўда, параўнанне ідзе толькі з расійскімі крыніцамі.

40-гадовы Сяргей Кізіма — загадчык кафедры міжнародных адносінаў Акадэміі кіравання. У 2008 гэты лукашэнкавец стаў доктарам паліталагічных навук, абараніўшы дысертацыю на тэму «Развіццё нацыянальнай дзяржавы ва ўмовах глабалізацыі: геапалітычны аспект».

«Пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 беларуская нацыя вярнулася да найлепшых ідэй, якія ўспрымаліся з ухваленнем і ў XIV стагоддзі, і ў савецкія гады», — піша Кізіма ва ўступе. Ягоная работа пісалася да абвальнага крызісу беларускай эканомікі. Палітолаг рабіў смелыя прагнозы: «Патэнцыял беларускай мадэлі з кожным годам будзе ўсё больш запатрабаваны... Заходняя эканамічная мадэль будзе зближацца з беларускай за кошт павелічэння дзяржаўнага сектара... Магутная незаходняя альтэрнатыва зараджаецца ў вобразе росту папулярнасці Кітая, Венесуэлы, Балівіі, Беларусі, Кубы...»

Такое спісаць у кагосьці складана. «Антыплагіят» выстаўляе Кізіму 88%. Але рэшта — пазнейшыя інтэрнэт-згадкі кавалкаў яго працы. Дысертацыя чыстая.

Аўтар наступнай работы — дэпутат Генадзь Пальчык, шматгадовы дырэктар ліцэя БДУ, самай паспяховай даўніверсітэцкай навучальнай установы краіны. Ягоная доктарская называецца «Тэарэтычныя і арганізацыйна-педагагічныя асновы ліцэйскай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». «Антыплагіят» прэтэнзій не мае. Пытанні застаюцца хіба да кіраўніцтва Беларусі, якое дагэтуль не можа зразумець, ці трэба краіне гімназічныя і ліцэйскія класы ды профільнае навучанне.

Нарэшце, кандыдат эканамічных навук Мікалай Бамбіза прысвяціў дысертацыю «Эканамічнаму механізму захавання біяразнастайнасці Нацпарку «Белавежская пушча». Ён дзесяць гадоў быў дырэктарам пушчы. Пасля звальнення яго падабраў «Белаграпрамбанк», дзе ён працуе наместнікам кіраўніка ўпраўлення інавацыйнага развіцця.

Дысертацыя складаецца з трох частак: асновы захавання біяразнастайнасці, сітуацыя ў Белавежскай пушчы і стратэгія захавання біяразнастайнасці. Фактура прывязаная да канкрэтнай мясцовасці, прэтэнзій да тэксту быць не павінна. Аднак «Антыплагіят» выдае: «21% арыгінальнага тэксту»! Усё проста — у інтэрнэце гуляе копія дысертацыі.

## Без электронных сведчанняў

Пачынаем чытаць аўтарэфераты дысертацый чыноўнікаў. Самы стары належыць спікеру савета рэспублікі **Анатолю Рубінаву**. Ён абараніў кандыдацкую «Метады вывучэння аптычных уласцівасцяў рэчыва пры вялікіх асветленасцях» яшчэ ў 1965. Праз восем гадоў стаў доктарам фізіка-матэматычных навук, прысвяціўшы даследаванне «Аптычным квантавым генератарам на аснове раствораў складаных арганічных злучэнняў». Шукаць плагіят бесперспектыўна: тагачасных крыніц не засталося.

Прэм'ер-міністр **Міхаіл Мясніковіч** і міністр абароны **Леанід Мальцаў** абараняліся ў Расіі ў 1990-я. З назваў работ Мясніковіча ясна, што перад намі заціяты рынычнік. Кандыдацкае званне яму прынесла дысертацыя «Умовы і фактары станаўлення рынкавай эканомікі ў Беларусі» (1994). Для доктарскай давялося абраць шырэйшую тэму: «Фінансава-прамысловыя групы і іх роля ў станаўленні рынкавых адносінаў» (1998).

Мальцаў спачатку стаў кандыдатам сацыялагічных навук з даследаваннем «Дзейнасць органаў вайсковага кіравання па падтрымцы і ўмацаванні вайсковай дысцыпліны» (1999), а доктарскую абараняў паліталагічную: «Стратэгія вайсковага будаўніцтва ў Беларусі ў сучасных умовах» (2004).

Некалькі чыноўнікаў сталі дактарамі навук у Беларусі. Губернатар Віцебшчыны, медык **Аляксандр Косінец**, прысвяціў працу прафілактыцы нагнаення ранаў, а міністр адукацыі фізік **Сяргей Маскевіч** — уласцівасцям вытворных тыяміну. На жаль, работы адсутнічаюць у электронным варыянце ў Нацыяналцы. Ад даследавання губернатара Гродзеншчыны **Сямёна Шапіры** («Кіраванне ў аграпрамысловым комплексе пры фармаванні рынкавых адносін»), абароненага ў 1999, застаўся толькі аўтарэферат, але ў дрэннай якасці.

Доктарская былога пракурора **Рыгора Васілевіча** разглядала «Праблемы заканатворчай дзейнасці Вярхоўнага Савета Беларусі» (1993). Электронных крыніц таго часу няма. Як і ў намесніка кіраўніка Адміністрацыі **Андрэя Тура**. У 1980 ён стаў кандыдатам эканамічных навук з крытычным аналізам «Сучаснай буржуазнай палітэканоміі Англіі аб нацыянальным даходзе». У першыя гады незалежнасці меркаванне Тура пра англійскую эканоміку змянілася. Гэтаму ў 1992 была прысвечана яго доктарская.

Старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда **Віктар Камянкоў** у 2003 давёў да абароны доктарскую тэму «Прававыя гарантыі абароны інтарэсаў юрыдычных асобаў і грамадзян у гаспадарчым працэсе».

## Ад кампартыі да камерцыйных банкаў

Няма электронных копій і большасці кандыдацкіх беларускіх чыноўнікаў. Дый у апошнія гады колькасць абароненых работ скарацілася.

У канцы 1990-х — пачатку 2000-х абараніцца было прасцей. Тады стаў кандыдатам педагагічных навук намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, лідар «Белай Русі» **Аляксандр Радзькоў** (работа называлася «Навуковыя сістэмы тэсціравання ў сістэме няспыннага навучання матэматыцы» (1996)). У 1998 дарадца Лукашэнкі **Наталля Пяткевіч** абараніла юрыдычную дысертацыю «Замежнаэканамічныя здзелкі: прававыя аспекты». Кіраўнік Банка развіцця Беларусі **Сяргей Румас** у 2001 знайшоў «Шляхі аптымізацыі структуры рэсурсаў камерцыйнага банка».

А віцэ-прэм'ер **Анатоль Тозік** стаў кандыдатам гістарычных навук яшчэ ў 1974 — «Дзейнасць кампартыі Беларусі па ўмацаванні сваіх шэрагаў ва ўмовах падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны». Доктарскую абараняць не стаў, але паспеў стаць прафесарам. У савецкія часы гэта дазвалялася.

Прыкладаў плагіяту не знайшлося — магчыма, чыноўнікі надзвычай сумленныя, а правілы абароны дысертацый вельмі строгія. Зрэшты, паўнавартую карціну можна будзе ўбачыць толькі пасля алічбоўкі ўсіх дысертацый.

Але што звяртае ўвагу: абсалютная большасць чыноўніцкіх прац, хоць фармальна і бездакорныя, але, па сутнасці, псеўданавуковыя. Сапраўдных адкрыццяў у даследаваннях няма. Стаць доктарам навук у ЗША з такімі дысертацыямі наўрад ці магчыма.

**Ягор Марціновіч**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Дактары навук: Міхаіл Мясніковіч (злева) і Леанід Мальцаў (справа)

**Колькі плацяць у Беларусі за навуковыя ступені?**

Супрацоўнікі дзяржаўных навучальных установаў і навуковых арганізацый атрымліваюць \$170 (дактары) і \$110 (кандыдаты) надбаўкі. У іншых бюджэтных арганізацыях дактарам даплачваюць па \$80, а кандыдатам — па \$40. Каб атрымаць даплаты, трэба штогод праходзіць пераатэстацыю — публікаваць не менш за тры артыкулы.

**Дактары навук**

Анатоль Рубінаў
Андрэй Тур
Рыгор Васілевіч
Міхаіл Мясніковіч
Леанід Мальцаў
Аляксандр Косінец
Сямён Шапіра
Віктар Камянкоў
Сяргей Маскевіч
Ірына Абельская

**Кандыдаты навук**

Анатоль Тозік
Аляксандр Радзькоў
Наталля Пяткевіч
Сяргей Румас

**Плагіят у Германіі**

Міністр адукацыі Германіі Анэта Шаван абараніла ў 1980 дысертацыю ў Дзюсельдорфскім універсітэце. Летась высветлілася, што дысертацыя ўтрымлівае плагіят. ВНУ забрала ў міністра навуковую ступень.

Міністр абароны Германіі Карл Тэадор Цу Гутэнберг у 2007 абараніў доктарскую ў Байройцкім універсітэце. Як выявілася, кавалкі тэксту былі скапіраваныя з чужых прац. Праз тыдзень у міністра адабралі ступень, ён сышоў у адстаўку.

**«Антыплагіят»**

Гэта інтэрнэт-праект, які пры лабіраванні міністра адукацыі Расіі Дзмітрыя Ліванава быў выведзены на федэральны ўзровень. На сайт можна загрузіць любую навуковую работу, і ён праверыць дакумент на запазычанні з іншых тэкстаў.

Сістэма мае недахопы. Алгарытм вылічэння плагіяту не растлумачаны (па дзіўным супадзенні, «ворагі» міністра адукацыі Расіі аказваюцца плагіятчыкамі, а яго дысертацыя чыстая на 100%). Па-другое, федэральны праект «Антыплагіят» прапануе шэраг платных паслуг, прыбытак ад якіх ідзе малавядомай прыватнай кампаніі. У яе ж дзіўным чынам аказалася база дысертацый Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі.

# Зварот грамадзян у абарону рабочых «Граніта» і выкладчыкаў Гродзенскага ўнівэрсітэта

**У Беларусі працягваюцца звальненні з працы па палітычных матывах.**

З Мікашэвіцкага прадпрыемства «Граніт» звольнены актывіст незалежнага прафсаюза Анатоль Літвінка. Раней з гэтага ж прадпрыемства былі звольненыя актывісты Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) Алег Стахаевіч, Мікалай Карышаў, Генадзь Паўлоўскі, Людміла Літвінка, Віталь Пашэчка, а з полацкага завода «Шкловалакно» — старшыня суполкі Свабоднага прафсаюза Віктар Стукаў.

З Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы па палітычных матывах звольнены прафесар Вячаслаў Швед. Раней у той жа навучальнай установе страціў працу дацэнт Андрэй Чарнякевіч. У знак пратэсту супраць палітычнага пераследу і пад ціскам з гэтага ўніверсітэта вымушаны быў сысці старшы выкладчык Ігар Кузьмініч.

Звальненне з працы па палітычных матывах — не толькі парушэнне працоўнага заканадаўства і міжнародных абавязацельстваў у рамках Міжнароднай арганізацыі працы. Гэта парушэнне Канстытуцыі і законаў Беларусі, чаго ўлады не могуць не разумець, і тым не менш не спыняюцца ў сваіх дзеяннях.

Мы лічым, што гэта адбываецца не толькі таму, што пазбаўленне працы, пагроза звальнення — механізм уздзеяння на іншадумцаў унутры краіны, нагнятанне атмасферы страху.

Гэта яшчэ і інструмент замежнай палітыкі, які скарыстоўваецца менавіта тады, калі назіраюцца тэндэнцыі да нармалізацыі адносінаў з Еўрасаюзам.

І кожны раз гэта робіцца для таго, каб абвастрыць адносіны з аб'яднанай Еўропай. Ва ўладзе ёсць людзі, якія не хочуць, каб адносіны Беларусі з еўрапейскай сям'ёй народаў паляпшаліся. Пакуль гэтыя сілы будуць мець уплыў, датуль яны будуць напружваць сітуацыю, скіроўваючы Беларусь на ўсход, у Расію. Менавіта яны з'яўляюцца «пятай калонай».

Такая палітыка вельмі небяспечная, бо можа прывесці да страты незалежнасці. Таму мы заклікаем усіх, у тым ліку тых прадстаўнікоў улады, якім насамрэч дарагая Беларусь, супрацьстаяць гэтай «пятай калоне».

Мы заклікаем беларускае грамадства выказаць салідарнасць з усімі, каго звальняюць з працы, выключаюць з навучальных установаў, падвяргаюць пераследу па палітычных матывах. Мы заклікаем дапамагаць ім маральна і матэрыяльна.

Мы заклікаем Міжнародную арганізацыю працы, прафсаюзныя арганізацыі, міжнародную дэмакратычную супольнасць адэкватна адрэагаваць на парушэнні ў Беларусі аднаго з асноўных правоў чалавека — права на працу.

Мы патрабуем ад уладаў безумоўнага выканання працоўнага заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Пад зваротам падпісалася 200 чалавек. Пакінуць свой подпіс можна на сайце nn.by.



**Звольненыя кандыдат гістарычных навук Андрэй Чарнякевіч (Гродна), драбільшчык Анатоль Літвінка і шафёр Алег Стахаевіч (абодва — Мікашэвічы).**

**Акудовіч Валянцін**, філосаф
**Арлоў Уладзімір**, пісьменнік, гісторык
**Барадулін Рыгор**, народны пісьменнік Беларусі
**Булгакаў Валер**, філосаф
**Бураўкін Генадзь**, паэт, былы пасол Беларусі пры ААН
**Вольскі Лявон**, спявак
**Гулак Алег**, старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта
**Колас Уладзімір**, педагог, старшыня Рады інтэлігенцыі
**Краўцэвіч Алесь**, доктар гістарычных навук
**Мазынскі Валер**, рэжысёр, былы кіраўнік Коласаўскага тэатра
**Марачкін Аляксей**, мастак
**Мілінкевіч Аляксандр**, фізік, старшыня Руху «За Свабоду», экс-кандыдат у прэзідэнты
**Някляеў Уладзімір**, паэт, лідар кампаніі "Гавары праўду" , экс-кандыдат у прэзідэнты
**Смалянчук Алесь**, доктар гістарычных навук
**Сідарэвіч Анатоль**, гісторык, публіцыст
**Чарнякевіч Андрэй**, гісторык
**Голубеў Валянцін**, доктар гістарычных навук
**Гарбачова Вольга**, кандыдат гістарычных навук
**Пашкевіч Аляксандр**, гісторык
**Соркіна Іна**, кандыдат гістарычных навук
**Дзікавіцкі Аляксей**, кіраўнік рэдакцыі інфармацыйных праграм Белсат TV
**Печанко Сямён**, журналіст
**Філатава Ірына**, перакладчыца
**Шафарэнка Мікалай**
**Петухоў Алесь**, магістр гістарычных навук
**Арцёменка Галіна**, згуртаванне беларусаў Нямеччыны
**Рулёў Антось**, студэнт
**Грабоўская Галіна**
**Дынько Андрэй**, шэф-рэдактар «Нашай Нівы»
**Фядута Аляксандр**, кандыдат філалагічных навук
**Мацін Сяржук**, студэнт
**Хурматава Ірына**
**Севярынец Кастусь**, журналіст
**Супрановіч Сяргей**, Вілейка
**Качан Міхаіл**
**Ашурак Вітольд**, будаўнік
**Бандарчук Дзмітрый**
**Пісальнік Андрэй**, журналіст
**Гурыновіч Уладзіслаў**, студэнт
**Бежалеў Сяргей**, псіхолаг
**Залеўскі Алесь**, журналіст
**Руселік Валера**, журналіст
**Вінаградаў Дзмітрый**
**Мурашка Яўген**, Германія
**Несцераў Аляксей**, інжынер
**Катkоўская Дар'я**, юрыст
**Астаповіч Антон**, старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры
**Малішэўскі Яраш**, музыка
**Севярынец Таццяна**, педагог
**Ількевіч Алесь**
**Смалянчук Вольга**
**Расінскі Андрэй**, кінакрытык
**Корзун Францішак**, культуролаг, перакладчык, магістр сацыялогіі
**Шлыкаў Усевалад**, журналіст
**Казлова Алена**, часопіс ARCHE
**Букач Наталля**
**Масла Алена**, пісьменніца
**Карытыш Віталь**, эканаміст, палітык
**Рымша Уладзь**, дарожнік
**Макушына Наталля**, журналіст
**Салаўёва Алена**
**Марціновіч Ягор**, журналіст
**Русецкі Сяргей**, выкладчык
**Івашын Мікалай**, фізік
**Касатая Таццяна**, гісторык
**Кулей Іна**, праваабаронца
**Маркелаў Пятро**
**Бандаровіч Павел**, спецыяліст у галіне трэйдзінгу і інвестыцый
**Вялічка Улад**, старшыня Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь»
**Дзікевіч Аляксандр**, гісторык, супрацоўнік сферы турызму
**Шэін Аляксей**, журналіст
**Рудовіч Аксана**, журналіст
**Трыгубовіч Валянціна**, журналіст
**Крыцук Мікіта**
**Шышко Вадзім**, навуковы супрацоўнік
**Ваганаў Сяргей**, журналіст
**Ананіч Аляксей**
**Лысюк Зміцер**
**Касцюкевіч Яўген**
**Пашкевіч Пётра**, доктар тэхнічных навук, Францыя
**Мудроў Вінцэсь**, літаратар
**Меляшкевіч Юрый**, інжынер-эколаг, Рух «За Свабоду»
**Мініч Алег**, аніматар
**Аўраменка Васіль**, лекар, Магілёў
**Марозаў Анатоль**, эканаміст
**Бурак Алена**, бухгалтар
**Тоўсцік Мікалай**, журналіст
**Спрынчан Аксана**, паэтка
**Кайрыс Аляксей**, студэнт
**Харланчук Алесь**, праўнік
**Бегляк Радзівон**
**Сувораў Радзівон**, настаўнік
**Маслюкоў Тэльман**, настаўнік
**Руды Аляксей**, аўдытар
**Лобач Уладзімір**, этнолаг
**Падбярэзская Ірэна**, архітэктарка
**Нікалаеў Павел**, інжынер
**Малышчыц Віктар**, выкладчык БДУ
**Тарасенка Ірына**, архітэктарка
**Ускоў Юрась**, журналіст
**Паленік Сяргей**
**Грынчанка Паліна**
**Сіраж Аляксандр**
**Панкавец Зміцер**, журналіст
**Аляхновіч Алесь**, эканаміст
**Семянчук Генадзь**, кандыдат гістарычных навук
**Вінчэўскі Дзмітрый**
**Васілевіч Уладзімір**
**Васілевіч Алена**
**Сівец Мікола**, рабочы
**Каштален Ірына**, гісторык
**Блеянюк Павел**, студэнт
**Мухін Ігар**, педагог, бард
**Сташкевіч Ігар**, дацэнт БДУ
**Салодкі Сяргей**, педагог
**Кавалевіч Андрэй**
**Матошка Наталля**
**Крывапуст Уладзімір**
**Карэтнікаў Юрась**
**Спірыдовіч Міхась**, пенсіянер
**Давыдоўскі Алесь**
**Валодзіна Таццяна**, фалькларыст
**Белы Алесь**
**Капуцкі Алесь**, юрыст
**Дужы Аляксей**, хірург
**Кулько Аляксей**
**Кісель Валер**, інжынер-канструктар
**Баршчэўскі Лявон**, перакладчык
**Мажэйка Аляксей**, кандыдат хімічных навук
**Шадрын Алесь**
**Лысюк Анатоль**, доктар палітычных навук
**Лысюк Лідзія**, доктар псіхалагічных навук
**Зяневіч Вадзім**, студэнт
**Барсукоў Андрэй**
**Бачыла Алена**
**Клімовіч Наталля**, інжынер
**Анціпенка Алесь**, філосаф
**Ігнатчык Яўгенія**, прадпрымальнік
**Казак Таццяна**, экскурсавод
**Мерляк Лізавета**, Беларускі незалежны прафсаюз
**Алейнік Юрый**
**Вярбіцкі Віктар**
**Казановіч Андрэй**
**Луцэвіч Таццяна**, кандыдат гістарычных навук
**Мацкевіч Алег**, юрыст
**Буранок Аляксей**, гарадзенец
**Колас Андрэй**, гісторык, выкладчык
**Чухманава Ганна**
**Сухадалінскі Сцяпан**, студэнт
**Савіч Васіль**
**Папко Аляксандр**, журналіст
**Ліс Віктар**, студэнт-эканаміст
**Прыка Маргарыта**, менеджар па продажах
**Рапека Аляксандр**
**Кузняцова Ларыса**
**Лучко Валянцін**, кандыдат біялагічных навук
**Паўловіч Мікалай**, гісторык
**Еўмянкоў Анатоль**, дырэктар музея імя Адама Міцкевіча
**Шыталь Кастусь**, журналіст
**Якубоўскі Валянцін**
**Кірына Марына**
**Гардзееў Юрый**, гісторык
**Краснова Алена**, выкладчык ЕГУ
**Трафімчык Сяргей**
**Трафімчык Анатоль**
**Уласенка Антось**
**Скок Віктар**, вядучы эканаміст
**Лялькоў Ігар**, намеснік старшыні Партыі БНФ
**Ільініч Наталля**, педагог
**Скрабутан Яўген**
**Бацяноўскі Аляксандр**
**Падсасонны Сяргей**, доктар гуманітарных навук, журналіст
**Кавалец Аляксей**
**Глушакова Тарэса**, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт
**Падгол Уладзімір**, філосаф
**Давідовіч Ірына**, мастачка
**Каржанеўская Марыя**
**Самсонаў Яўген**, журналіст
**Друмс Аляксандр**
**Дыдышка Лявон**, пенсіянер
**Севярынец Ганна**, выкладчык
**Наркевіч Алесь**
**Тытульчанкава Ірына**
**Сядоў Валерый**, філосаф
**Шукевіч Вольга**
**Мамедава Айнур**, студэнтка
**Чарнякевіч Ігар**
**Лупач Зміцер**, журналіст
**Чудзілоўская Святлана**
**Прэдка Зміцер**, інжынер-праграміст
**Крэбс Ігар**, менеджар
**Ракецкая Валянціна**, псіхолаг
**Лушчынская Надзея**
**Кузьмініч Ігар**, выкладчык
**Залатар Вольга**
**Тарасаў Мікіта**, вэб-распрацоўшчык
**Марчанка Віктар**
**Марчанка Вольга**
**Клачкоў Ігар**
**Клачкова Алена**
**Лазоўская Ніна**

# Расійская поп-дзіва Жанна Фрыске нарадзіла сына ад беларуса Дзмітрыя Шэпелева

Дзіця хочуць назваць **Платонам**.




Першынец Жанны Фрыске з'явіўся на свет у Амерыцы. 7 красавіка 38-гадовая спявачка нарадзіла сына ў прэстыжным радзільным цэнтры Маямі, дзе прабыла апошнія месяцы ў чаканні шчаслівай падзеі.

Бацькам дзіцяці, на думку сяброў артысткі, з'яўляецца тэлевядучы Дзмітрый Шэпелеў — менавіта ў яго кампаніі Жанну бачылі апошні год. З ім Жанна рэгулярна адпачывала ў Маямі і летась, і сёлета.

Некалькі дзён таму Дзмітрый Шэпелеў тэрмінова вылецеў у Амерыку, каб падтрымаць Жанну. У момант родаў 30-гадовы тэлевядучы знаходзіўся ў Маямі.

Чыё прозвішча возьме дзіця, пакуль няясна — як вядома, Жанна Фрыске і Дзмітрый Шэпелеў не знаходзяцца ў афіцыйным шлюбе. Першыя месяцы жыцця малога спявачка збіраецца правесці таксама ў Амерыцы.

**Сямён Цыбульскі**

# Памерла ўраджэнка Беларусі — адна з найбагацейшых жанчынаў свету



Спадкаемца амерыканскай кампаніі Johnson & Johnson Барбара Джонсан сканала пасля працяглай хваробы ў веку 76 гадоў.

Барбара Джонсан у дзявоцтве мела прозвішча Пясэцкая. Яна нарадзілася ў 1937 годзе ў вёсцы Станевічы ў сучаснай Гродзенскай вобласці.

У 1968 годзе, скончыўшы навучанне ў Вроцлаўскім універсітэце, Барбара пераехала ў ЗША. З-за фінансавых праблем была вымушаная працаваць прыслугай. Так яна трапіла ў дом Джонсанаў.

Там Барбара пазнаёмілася са сваім будучым мужам — Джонам Севардам Джонсанам, саўладальнікам Johnson & Johnson. Сапраўдная галівудская гісторыя...

**СЦ**

## Патапа і Насцю Каменскіх закідалі яйкамі за русіфікацыю

Гэта адбылося 6 красавіка, падчас канцэрта ў Цярнопальскім палацы культуры. Міліцыя затрымала шасцярых «нападнікаў», гэта сябры патрыятычнай арганізацыі «Трызуб».

«Мы лічым мову механізмам перадачы з пакалення ў пакаленне нацыянальнай ідэнтычнасці. І заўсёды будзем супрацьстаяць тым, якія забыліся, «чыіх яны бацькоў дзеці», і праз сваю безгрунтоўнасць прапагандуюць чужыя каштоўнасці, зневажаючы ўласныя. Усе яны з'яўляюцца ўкраінскімі артыстамі, таму абавязаны на сцэнах Украіны спяваць па-ўкраінску», — расказаў старшыня арганізацыі «Трызуб» імя Сцяпана Бандэры Васіль Лабайчук.

«Наведванне цярнопальцамі такіх канцэртаў — ганьба для ўкраінскай песні, мовы і культуры і дае магчымасць зарабляць не тым, хто нясе ўкраінскія каштоўнасці, а тым, хто іх нівелюе». «Трызуб» заклікаў байкатаваць гастролі Патапа і Насці, якія «ў сваім рэпертуары маюць больш за 80% неўкраінскіх песень».

**ІН**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Пра выдумкі і аспекты

Праз тыдзень у Ашмянах будуць судзіць фотаздымкі з альбома, што выдадзены па выніках конкурсу Belarus Press Photo. У сувязі з адпаведнасцю фотаздымкаў артыкулу 1 Закона РБ «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму».

Экстрэмізм унюхалі гродзенскія кадэбэшнікі, а адпаведнасць знайшлі эксперты — ідэолагі ды юрысты з тамтэйшых аблвыканкама і ўніверсітэта.

Пакуль невядома, ці пацвердзіць вынаходніцтва цывільных экспертаў Высокі Ашмянскі Суд. Але што працэс будзе вельмі цяжкі, сумневу няма. Паспрабуйце «...не адпаведныя рэчаіснасці выдумкі пра жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь...» спалучыць з тым, што альбом «...адлюстроўвае толькі негатыўныя аспекты жыццядзейнасці беларускага народа...»

У чым суд будзе шукаць экстрэмізм — у «выдумках» ці «аспектах»?

Мусіць, і ў «аспектах», і ў «выдумках», бо менавіта яны па натхнёнай думцы экспертаў «...прыніжаюць нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Беларусі...». А «...дзейнасць грамадзян па здзяйсненні дзеянняў, скіраваных на прыніжэнне нацыянальнага гонару і годнасці, з'яўляецца экстрэмісцкай».

Вось, дарэчы, праблемка для суда — адшукаць экспертаў, якія патлумачаць, што гэта — «дзейнасць грамадзян па здзяйсненні дзеянняў...» ? Дробязь, маўляў, а непрыемна, нават агідна, што на ўзвышэнне нацыянальнага гонару і годнасці не хапае зразумелых словазлучэнняў...

Але найвялікшай праблемай для суда будзе адшукаць у фотаздымках прыніжэнне нацыянальнага гонару і годнасці грамадзян, ды яшчэ ў якасці экстрэмізму.

Спатрэбіцца, мусіць, выклікаць у суд грамадзяніна, што ляжыць у крыві пасля збіцця амапаўскім дручком, і спытаць, ці адчуў ён згаданае прыніжэнне. А дзеля аб'ектыўнасці запытацца пра тое ж у амапаўца, што ў пераможнай позе ўзвышаецца над збітым у кроў грамадзянінам...

Спатрэбіцца, мусіць, выклікаць у суд і мяне, бо я злачынна спрычыніўся да прагляду тых здымкаў. Вядома, я патлумачыў бы суду, якая страшэнная рэч — фотаапарат у руках экстрэмістаў. Чакаеш птушку, а вылятае жудасны экстрэмізм у выглядзе выдумак і негатыўных аспектаў.

Іншая справа — птушка, ці пазітыўны аспект.

Як добра і зразумела было да з'яўлення ўсіх гэтых хайтэкаўскіх фотапрычындалаў! З любога негатыву можна было зрабіць любы пазітыў. Дастаткова было сказаць «чы-ы-ы-з», каб атрымаўся пазітыўны аспект жыццядзейнасці. Нават здымкі у анфас і профіль з розных бакоў лічыліся пазітыўным для грамадства аспектам.

А вось сёння са здымкаў у анфас і профіль ніяк не атрымліваецца пазітыўны аспект. Таму я прасіў бы суд прызнаць адпаведным экстрэмізму гэты негатыўны аспект

## Высокі Ашмянскі Суд, прашу звярнуць увагу...

жыццядзейнасці Рэспублікі Беларусь, які, калі пагадзіцца з экспертамі, «змяншае аўтарытэт дзяржаўнай улады, падрывае давер да органаў улады з боку замежных дзяржаў, замежных або міжнародных арганізацый...» І прыцягнуць да адказнасці фатографа, што не здолеў пераканаць людзей на тых здымках вымавіць аптымістычнае «чы-ы-ы-з»...

Яшчэ я прасіў бы ВАС (Высокі Ашмянскі Суд) звярнуць увагу на некаторыя незаўважныя аспекты мудрагелістай справы.

Найперш на тое, як тлумачыць экстрэмізм «Слоўнік замежных слоў» выдання 1954 года, калі фотаальбомы са здымкамі ў анфас і профіль яшчэ існавалі ў якасці пазітыўнага аспекта: «...тэрмін, што звычайна ўжываецца рэакцыянерамі...»

Па-другое, не забывацца, што ў сусветнай гісторыі існуе куды больш просты і эфектыўны па ўсіх аспектах прэцэдэнт па знішчэнні з дапамогай вогнішчаў экстрэмісцкіх выданняў накшталт кніг Фейхтвангера, Рэмарка ці Зігмунда Фройда... Да таго ж вельмі прывабны для грамадзян, якія ад негатыўных аспектаў у тых кнігах адчувалі прыніжэнне нацыянальнага гонару і годнасці...

Па-трэцяе, вярнуць тое самае прыніжэнне ў кантэкст артыкула 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму», бо яно стаіць у адным радку з распальваннем расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці, іншымі пачварнымі экстрэмісцкімі з'явамі і менавіта з гэтых з'яваў вынікае...

Па-чацвёртае, не пакідаць па-за межамі справы ліхаманкавасць у пошуку экстрэмістаў, якая сведчыць толькі аб тым, што насамрэч экстрэмістаў, дзе іх шукаюць, няма, а ёсць несупыннае жаданне цывільных ідэолагаў і абаронцаў, так бы мовіць, дзяржаўнай бяспекі папрацаваць не на краіну, а на ўласнае існаванне.

І, нарэшце, вынесці судовую пастанову ў дачыненні да дзяржаўнай улады, бо са згаданай вышэй экспертызы вынікае, што жыццядзейнасць Рэспублікі Беларусь — гэта адно, а жыццядзейнасць беларускага народа — гэта іншае.

То бок у адным выпадку «выдумкі», а ў іншым — «аспекты». Дзве вялікія розніцы, як сказалі б у Адэсе.

Але ж і ў Ашмянах трэба нешта сказаць.

*kamerton_41@mail.ru*

# Памерла «жалезная лэдзі» Маргарэт Тэтчэр

Яна пражыла **87 гадоў**.

Баранэса Маргарэт Тэтчэр памерла раніцай у панядзелак, ад інсульту.

Яна была бескампрамiснай праціўніцай Савецкага Саюза і камунізму. І яна стала сведкам падзення Імперыі зла. У незалежнасці Беларусі ёсць часцінка і яе заслугі.

Тэтчэр нарадзілася ў 1925 годзе, была прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі (урад кансерватараў) у 1979—1990 гг. Яна нарадзілася ў невялікім Грэнтэме (тамсама ў школу хадзіў Ісаак Ньютан) у беднай сям'і і «зрабіла сябе сама». Стала выдатным палітыкам, эканамістам і аратарам — іконай кансерватызму.

Яна правяла масавую прыватызацыю і абмежавала ўмяшанне прафсаюзаў у эканамічныя пытанні. За бескампраміснасць і моцную волю яе празвалі «жалезнай лэдзі». Як прэм'ер-міністарка, яна ажывіла брытанскую эканоміку і вярнула Брытаніі статус вялікай дзяржавы.

Была першай жанчынай, што стала прэм'ер-міністрам еўрапейскай дзяржавы.

Тэтчэр стала прэм'ер-міністрам у нялёгкі час, але ў хуткім часе змагла справіцца з праблемамі, пачаўся эканамічны рост, амаль была ліквідаваная праблема беспрацоўя. Яшчэ большую папулярнасць заслужыла падчас канфлікту на Фальклендскіх астравах. У 1982 Вялікабрытанія разграміла Аргенціну ў хуткай, але крывавай вайне за выспы. Калі аргенцінцы вырашылі заняць астравы, Тэтчэр дзейнічала рашуча. Яна адправіла на Фальклэнды флатылію і высадзіла дэсант. Тэхналагічная перавага брытанцаў аказалася важнейшай за блізкасць аргенцінскіх портаў.

Гэткай самай жорсткай Тэтчэр заставалася ў ірландскім пытанні. У 1981 у турме галадоўку абвесцілі байцы IRA. Яны пратэставалі супраць таго, што іх пазбавілі статусу палітзняволеных. Падчас галадоўкі памерлі 10 чалавек. Тэтчэр не саступіла.

«Быў час, калі зашмат людзей разважала так: «У мяне праблема, значыць, дзяржава павінна рашыць яе». Або так: «У мяне ёсць праблема, значыць, мне трэба грант на яе вырашэнне». І яны ўсе перакладалі свае праблемы на грамадства. А хто такі грамадства? Ёсць мужчыны і жанчыны, ёсць сем'і. А дзяржава можа дзейнічаць толькі праз людзей, і людзі найперш павінны вырашаць свае праблемы самі, а пасля памагаць суседзям у вырашэнні іх пытанняў і выконваць свае абавязкі, бо жыццё — гэта ўзаемнасць. А то людзі былі занадта прызвычаеныя, што нехта абавязаны ім, а не тое, што абавязаныя яны», — сказала Тэтчэр у 1987 годзе.

Пра смерць Тэтчэр паведаміў яе прэс-сакратар лорд Цімаці Бэл, той самы, што яшчэ некалькі гадоў таму быў піяршчыкам Лукашэнкі ў Еўропе. Пахаваюць Тэтчэр у лонданскім саборы святога Паўла.

**Сяргей Гезгала**



## Маргарэт Тэтчэр. **Правілы жыцця**

• Не скажу, што мне пашанцавала. Проста я заслужыла гэта.

• Як правіла, мне дастаткова дзесяці секундаў, каб скласці меркаванне пра мужчыну, і потым яно рэдка мяняецца.

• Калі тыя, хто мяне крытыкуе, убачылі, як я крочу па вадзе Тэмзы, яны сказалі б: гэта таму, што яна не ўмее плаваць.

• Па мне, кансэнсус — гэта працэс адмовы ад сваіх перакананняў, прынцыпаў, каштоўнасцяў і стратэгій. Гэта тое, у што ніхто не верыць і з чым ніхто не спрачаецца.

• Вядома, банальнасці існуюць. Яны існуюць проста таму, што адлюстроўваюць праўду.

• Запал да перамогі палае ў кожным з нас. Воля да перамогі — пытанне трэніроўкі. Спосаб перамогі — пытанне гонару.

• Калі я буду выступаць адна супраць сарака васьмі, мне будзе шкада гэтых сарака васьмі.

• Хто такі грамадства? Яго няма. Ёсць мужчыны, ёсць жанчыны, і ёсць сем'і.

• Лячыць застарэлыя брытанскія хваробы сацыялізмам — гэта як лячыць лейкемію п'яўкамі.

• Кожная жанчына, знаёмая з праблемамі вядзення хатняй гаспадаркі, блізкая да таго, каб разумець праблемы кіравання краінай.

• Калі характар праяўляе жанчына, пра яе кажуць «сука». Калі характар праяўляе мужчына, пра яго кажуць «мужык».

• У сённяшняй Брытаніі «Маркс і Спэнсэр» перамаглі Маркса і Энгельса.

## Айцец Надсан: Тэтчэр была дэпутаткай ад «беларускай» акругі Лондана

Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы айцец Аляксандр Надсан узгадвае пра Маргарэт Тэтчэр.

«Беларусы яе нармальна ўспрымалі. Яна сустракалася з біскупам Сіповічам, старшынёй Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Янкам Міхалюком. Шкада, што іх няма ўжо ў жывых. Яны болей за мяне цікавіліся палітыкай».

**«Наша Ніва»: Гэта былі сустрэчы з прадстаўнікамі розных дыяспар?**

**Аляксандр Надсан:** Не абавязкова. Пры розных аказіях. Яна ж была дэпутаткай парламента ад нашай, «беларускай» акругі Фінчлі (у гэтым раёне Лондана размяшчаецца Беларуская грэка-каталіцкая царква і Бібліятэка імя Францішка Скарыны — «НН»). Таму сустракалася нават як з выбарцамі. Тут для дэпутатаў гэта важна. Гэта нармальная рэч. А па Фінчлі Тэтчэр абіралі так часта, як Лукашэнку ў Беларусі *(смяецца)*.

**«НН»: А што адносна яе пазіцыі ў дачыненні Савецкага Саюза, вас яна задавальняла?**

**АН:** Тэтчэр была моцнай антыкамуністкай. Толькі калі да ўлады прыйшоў Гарбачоў, то яна спрабавала жыць з ім у згодзе. Тут яна была вельмі падобная да амерыканскага прэзідэнта Рэйгана.

**«НН»: А англічане як успрымалі Тэтчэр як чалавека і палітыка?**

**АН:** Як чалавек, то яна мела вялікую сілу волі. Адна з найвыбітнейшых асобаў новай гісторыі. А вось лейбарыстам яе палітыка не падабалася, асабліва ў пытаннях прыватызацыі.

**Гутарыў ЗП**



**На фота — Маргарэт Тэтчэр і беларускі біскуп Часлаў Сіповіч. © Фота з кнігі Наталлі Гардзіенкі «Беларусы Вялікабрытаніі»**

# Ці быць вайне паміж Паўночнай і Паўднёвай Карэяй?

Беларус у Тэгу: «Сітуацыя **крыху нервовая**».

Кім Чэн Ын, заняўшы месца свайго бацькі, спачатку ствараў ілюзію дэмакратызацыі краіны. Аднак 12 снежня 2012 КНДР запускам ракеты «Ынха-3» паспяхова вывела на арбіту Зямлі спадарожнік, а 12 лютага правяла трэцяе выпрабаванне ядзернай зброі, прадэманстраваўшы свету, што наступная «Ынха» можа несці зусім не мірны груз.

Увесну КНДР узмацніла антыамерыканскую і антыпаўднёвакарэйскую рыторыку. У справу пайшоў нават фоташоп: з яго дапамогай прапагандысты размножылі вайсковыя караблі і ракеты для дэманстрацыі сілы і запалохвання. Апагеем стала заява Пхеньяна ад 30 сакавіка, паводле якой КНДР уступіла ў «стан вайны» з паўднёвым суседам. Трэба адзначыць, што фармальна вайна дзвюх Карэй не спынялася ад 1953 — тады было падпісана толькі перамір'е.

Прэзідэнтка Паўднёвай Карэі Пан Кын Хе заяўляе, што КНДР нагнятае сітуацыю дзеля атрымання дапамогі. Мясцовыя жыхары таксама не вераць у верагоднасць вайны.

«Ніякіх змен у жыцці няма, быццам нічога не адбываецца. Мы сочым за сітуацыяй, глядзім тэлевізар, але штодзённае жыццё нічым не адрозніваецца ад таго, што было 2 месяцы таму», — расказаў «НН» беларускі ўсходазнаўца Антон Лупанаў, які навучаецца ў магістратуры Кеймʼюнскага ўніверсітэта (Паўднёвая Карэя).

«Карэйцы вельмі спакойна ўспрымаюць пагрозы КНДР, яны пагражаюць ужо 50 гадоў. Я чуў, што ў пачатку 1990-х, калі КНДР пагражала знішчыць Сеул, людзі пачалі набываць ваду, маскі і рыхтаваліся да горшага. Цяпер людзі нават гавораць на гэту тэму няшмат. Хаця, трэба прызнаць, што сітуацыя крыху нервовая, але не такая, як дзесяць гадоў таму.

Некалькі дзён таму размаўляў з амерыканскімі жаўнерамі, база якіх знаходзіцца каля майго горада Тэгу. Дык нават яны не бянтэжацца. Кажуць проста, што ім сказалі быць «заўсёды гатовымі»... і ўсё. Калі я іх сустрэў, яны шпацыравалі ў цэнтры горада, мірна і спакойна праводзілі свой выхадны дзень.

Я быў у Карэі у 2010, калі КНДР абстраляла паўднёвакарэйскую выспу Ёнпхён. Нават калі адбыўся сапраўдны канфлікт з ужываннем артылерыі, карэйцы, і я разам з імі, былі ўпэўнены, што сапраўднай вайны не будзе. Пасля гэтага абстрэлу былі невялікія вучэнні. Нам паказалі, дзе ва ўніверсітэце бамбасховішча. Я не пайшоў разам з усімі —падрыхтоўка да экзамену была для мяне важнейшай.

Адкажу шчыра: асабіста я не ўпэўнены на 100%, што вайны не будзе. КНДР зможа знішчыць пэўную частку Паўднёвай Карэі, могуць разбамбіць Сеул. Аднак усе тут спадзяюцца, што КНДР не пойдзе на самагубства і не распачне вайну, у якой ёй ніколі не перамагчы».

**Кірыла Хілько**

# У Гродне загінуў 86-гадовы бацька доктара медыцыны Астроўскага

25 сакавіка пенсіянер атрымаў **цяжкія траўмы** каля свайго гаража.

Прафесар кафедры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандр Астроўскі расказаў карэспандэнту «Нашай Нівы» падрабязнасці трагічнага здарэння.

Паводле яго словаў, ягоны бацька 25 сакавіка паехаў на месца сваёй былой працы, каб атрымаць ільготныя талоны ў лазню, як удзельнік вайны. Пасля прыблізна а 14-й гадзіне паехаў у гараж па гародніну. Там ён нібыта сустрэў сваіх знаёмых, спыніўся, паразмаўляў з імі. І толькі тады пайшоў да гаража.

«Я бачыў пазней тых людзей. Яны кажуць, што праз хвілін 20 пасля сыходу майго бацькі пачулі яго крык», — расказаў Астроўскі. Калі мужчыны прыбеглі да гаража, то ўбачылі пенсіянера недалёка ад ягонага гаража, дзверы былі не зачыненыя.

«Кажуць, што паднялі яго, ён быў у прытомнасці. Прапанавалі выклікаць «хуткую», але ён нібыта папрасіў адвезці яго на іхняй машыне адразу ж у шпіталь. Што яны і зрабілі».

У Астроўскага-старэйшага ў шпіталі выявілі цяжкія траўмы: паламаныя з абодвух бакоў рэбры, разарваныя касу і нырку, моцнае ўнутранае кровазліццё, пашкоджаны хрыбетнік.

Прафесар Астроўскі кажа, што ў шпіталь бацьку прывезлі ў прытомнасці, але ён, па словах доктара, што яго аглядаў, таксама нічога не сказаў.

«Гэта самае дзіўнае. Ні сведкам, якія нібыта прыбеглі на крык, ні доктару ён нічога не сказаў. Мог жа сказаць, што яго збіла машына ці напалі бандыты».

1 красавіка прафесар Астроўскі даваў паказанні следчым у якасці пацярпелага. Падрабязнасці ён не каментуе. «Каб не нашкодзіць следству».

### Афіцыйна

Упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці агучыла афіцыйную версію. Яна істотна адрозніваецца ад словаў прафесара Астроўскага. Паводле следчых, Астроўскі-старэйшы стаў ахвярай ДТЗ. У бальніцу яго адвёз кіроўца аўто, які на яго наехаў каля гаражоў.

### «Летам бацька на лецішча пехам хадзіў 6 км»

«Мой бацька нарадзіўся ў 1927 на Магілёўшчыне. Маці рана памерла, гадаваў яго бацька», — расказаў Астроўскі.

У часе вайны трапіў у вайсковую вучэльню, паваяваць не паспеў, але адслужыў пасля сем гадоў на падводнай лодцы. Аднойчы ягоная лодка ледзь не патанула, экіпаж цудам уратаваўся. «Як выбраліся на бераг, то казалі, што назад не палезуць у лодку, хоць расстраляйце».

Пасля вайны Аляксандр Астроўскі скончыў у Бабруйску аўтадарожны тэхнікум і прыехаў на працу ў Гродна на завод карданных валаў. Прапрацаваў там да пенсіі, страціў слых.

«Гэта ці не адзіная сур'ёзная хіба ў ягоным здароўі была, хоць яму і пад 90 стукнула. Войска загартавала, цвёрды як цвічок быў. Летам на лецішча праз горад шэсць кіламетраў хадзіў. Гэта асноўны ягоны занятак на пенсіі быў — лецішча, гараж. Жыў з маці ў двухпакаёўцы. Цяпер мама адна засталася».

**Сямён Печанко**

**Вышук**



38-гадовы **Сяргей Жмейда** вышукваецца Касцюковіцкім РУУС Магілёўскай вобласці. Хлопца падазраюць у забойстве. Калі нехта ведае месца знаходжання, паведамляць па тэлефоне: 8 (0222) 29-85-05, 29-85-09.



УУС Гродзенскага аблвыканкама шукае 55-гадовага **Анатоля Гарбанюка**. На кісці левай рукі ёсць татуіроўка «Галя». Мужчына падазраецца ў згвалтаванні. Тэлефон: (017) 218-75-92.



УУС Гомельскага аблвыканкама вышуквае без вестак зніклага непаўналетняга **Акбара Атаула Ід Махамада**, ураджэнца горада Чарыкар (Афганістан), выхаванца 6 «А» класа «Гомельскага дзіцячага дома», які 31 сакавіка а 16.00 сышоў і месцазнаходжанне яго не ўстаноўлена. Тэлефон: 8 (0232)70-41-28.

**Фотафакт**



**У Дамашах на Маладзечаншчыне параненая кабыла канала на дарозе: кінулі гаспадары. Яны не дабівалі жывёлу — хацелі прадаць на мяса, але купца не знаходзілася. Кабыла ляжала на вуліцы, за некалькі метраў ад трасы Маладзечна — Смаргонь насупраць вясковай каплічкі. Яе збіла машына. Суседзі падклалі пад яе салому, спрабавалі карміць. Сітуацыя выклікала розгалас у СМІ, і ўрэшце з дапамогай уладаў жывеліну адвезлі на бойню. У мясцовым сельсавеце «НН» паведамілі, што зараз вырашаецца пытанне, ці складаць пратакол аб жорсткім абыходжанні з жывёлай.**

## Замужняя мінчанка пасля знаёмства ў начным клубе скрала ў новага знаёмага мабільны і 8 мільёнаў

Малады чалавек пазнаёміўся з дзяўчынай у адным з начных клубаў Мінска. Яны працягнулі вечар у яго дома, а на раніцу дзяўчына знікла. Разам з ёй з кватэры зніклі дарагі мабільны тэлефон і 8 мільёнаў рублёў.

Міліцыя на працягу сутак высветліла асобу начной госці і яе месца жыхарства. Першапачаткова дзяўчына ўсё адмаўляла, аднак затым расказала, як была справа.

Праўду даведаўся і яе муж з маленькай дачкой. Пры гэтым мужу з'яўленне тэлефона дзяўчына патлумачыла, што знайшла апарат у начным клубе.

У дачыненні да затрыманай распачата крымінальная справа. Прычынены матэрыяльны ўрон памерам 16 млн рублёў пацярпеламу кампенсаваны.

**БелТА**

## Жыхар Барысаўскага раёна 7 гадзін гвалтаваў сваю 75-гадовую маці

Беларуская вёска, відавочна, дэградуе ўсё больш і больш. Усяго некалькі месяцаў таму 22-гадовы хлопец, які пражывае ў вёсцы Ермаловічы Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці, згвалціў 93-гадовую бабулю, а цяпер адбыўся яшчэ больш абуральны выпадак. У Беларусі такога раней ніколі не здаралася. Што немалаважна, не апошнюю ролю ў маральным падзенні беларускай вёскі грае таннае пойла, якім заваленыя сельскія крамы і якое складае асноўны іх абарот.

Пры адсутнасці маральных бар'ераў і альтэрнатыўных заняткаў даступны алкаголь літаральна выварочвае мазгі сельскіх жыхароў. Менавіта ў стане алкагольнага ап'янення яны пачынаюць тварыць усе гэтыя жудасныя справы.

Паводле дадзеных барысаўскай міліцыі, падазраваны пражываў са сваёй 75-гадовай маці ў вёсцы Лошніца. Вясковец нідзе не працаваў. Фактычна ўвесь сэнс яго існавання зводзіўся да таго, каб знайсці грошы для чарговай порцыі выпіўкі. Пры гэтым падазраваны не саромеўся браць у маці яе бедную пенсію і траціць грошы на таннае віно ў сельпо.

Пасля чарговай выпіўкі падазраванаму захацелася жанчыну, а паколькі нікога з жыхарак вёскі мужчына не прыцягваў, ён вырашыў задаволіць свае жывёльныя інстынкты пры дапамозе сваёй маці.

Паводле дадзеных следства, нягледзячы на супраціў і слёзы жанчыны, сын здзекаваўся з яе цягам сямі гадзін. Падрабязнасці яго дзеяння ў прывялі ў шок супрацоўнікаў міліцыі і далі падставу для завядзення нават не адной, а адразу дзвюх крымінальных справаў: па ч.2 арт.166 (згвалтаванне паўторна) і па ч.2 арт.167 (гвалтоўныя дзеянні, учыненыя паўторна) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

**Ej.by**

**Сцісла**

### Маці вынесла траіх дзяцей з агню

Два чалавекі пацярпелі і 25 эвакуіравана на пажары ў доме №82 па вуліцы Каменнагорскай. Па словах дзяцей (2002, 2005 і 2008 г.н.), джанчына вывела іх з падпаленай кватэры і самастойна пачала гасіць пажар. У выніку ў яе абгарэла 50% цела. Прычына пажару высвятляецца, меркаваная — свавольства дзяцей з агнём.

### Пад Мінскам выяўлены падпольны каўбасны цэх

Сыравіна набывалася на адным са сталічных рынкаў, там жа быў наладжаны і збыт гатовай прадукцыі. Прычым з ростам абёмаў вытворчасці павялічвалася і сетка рознічнага гандлю.

### У Івацэвіцкім раёне скончыў жыццё самагубствам 17-гадовы юнак

Загінулы вучыўся ў адным з каледжаў Гродзенскай вобласці. На выхадныя ён прыехаў у вёску дамоў, дзе жыў з маці. Паводле слоў жанчыны, калі яна клалася спаць, сын сядзеў за камп'ютарам. Раніцай, выявіўшы, што сына няма дома, яна пачала яго шукаць і знайшла павешаным.

### Кантрабанднае віно

Ашмянская мытня затрымала 11 тысяч літраў кантрабанднага армянскага віна. Усяго арыштавана больш за 15 тысяч бутэлек выраблена ў Арменіі віна пладовага і вінаграднага ёмістасцю 0,75 літра на суму 614 млн рублёў. Груз перавозіўся на аўтамашыне «Вольва» з Ерэвана ў Вільню.

### Дзяўчына-інвалід 4 дні пражыла ў кватэры з памерлай маці

У 15-гадовай дзяўчыны — цэрэбральны параліч. Яна размаўляе і можа перасоўвацца, аднак папрасіць аб дапамозе не змагла. Усе гэтыя дні дзяўчына была не еўшы. Суседзі заўважылі, што з кватэры ніхто не выходзіць і паднялі трывогу. Былі ўзламаныя дзверы. Здарылася гэта ў Брэсце.

**КМ**

# Хведар Піскуноў і яго спроба зламаць стэрэатып

**Памёр стваральнік найбольшага ў гісторыі «Вялікага слоўніка беларускай мовы».**

Хведара Піскунова не стала 6 красавіка. Паводле адукацыі ён быў хімікам, паводле прафесіі — праграмістам, але захапленнем яго была мова. Наша мова. Родная мова. У спалучэнні з тэхнічным ладам мыслення гэта дало надзвычайны плён. Тысячы беларусаў карыстаюцца распрацаванымі ім праграмамі. А помнікам па сабе ён пакінуў «Вялікі слоўнік беларускай мовы» — найбольшы ў гісторыі. На 223 тысячы словаў.

«Бог лічыць кожны мой дзень і гадзіну», — так ён казаў», — успамінае мовазнаўца, доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун. У Піскунова была лейкемія, і ён ведаў пра свой дыягназ. Барогся, стараўся не прастуджвацца, пры раку крыві гэта важна, і — напоўніцу выкарыстаў адведзены яму час.

Выдадзены Хведарам Піскуновым у 2012 «Вялікі слоўнік беларускай мовы» стаў падзеяй года ў мовазнаўстве. І гэта пры тым, што выйшаў ён адначасова са «Слоўнікам беларускай мовы», які складалі супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук. Так сталася, што адзін энтузіяст зрабіў працу супастаўную, а мо і большую за цэлы акадэмічны інстытут.

Піскуноў не быў прафесійным лінгвістам. Ён скончыў хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, працаваў на «Інтэграле», пасля ў фізіка-тэхнічным інстытуце АН Беларусі. У пачатку 2000-х яму давялося ўдзельнічаць у стварэнні камп'ютарнай праграмы праверкі беларускай арфаграфіі «Літара». Прафінансавала гэтую працу амерыканская беларуска Ала Орса-Рамана. («Беларуская» дзяржава адпачывала недзе ўбаку.) Праграмай карысталіся тысячы людзей. Захапіўшыся, Піскуноў праз некалькі гадоў стварае ў дадатак электронны слоўнік «Парадыгма», удасканальвае саму «Літару»...

«Ён стаў заходзіць да мяне, кансультавацца па праблемах моваznаўчых. Прафесіяналізаваўся вельмі хутка», — згадвае Генадзь Цыхун. Праўда, перайсці на літаратурную беларускую ў жыцці праграміст Піскуноў так і не змог: гаварыў сваёй рэгіянальнай трасянкай. Родам ён з Гомельшчыны.

Вяршыняй яго працы з мовай стаў «Вялікі слоўнік». «Я патрацiў на яго стварэнне 12 гадоў, а па факце — палову жыцця, — казаў укладальнік карэспандэнту «НН» у маі 2012-га. — Тут можна знайсці словы, якія па ідэйных прычынах не траплялі ў іншыя слоўнікі: я апрацоўваў лексіку літаратуры 1920-х, 1930-х гадоў, шмат рэлігійнай лексікі. У слоўніку каля 223 000 словаў, але тут для мяне важная не колькасць, а спроба зламаць стэрэатып «калі такога слова няма ў слоўніку, значыцца яго не існуе».

У рэестр трапілі словы, ужываныя ў беларускамоўнай прэсе, творах мастацкай, навукова-папулярнай, навучальна-адукацыйнай і рэлігійнай літаратуры XX—XXI стагоддзяў. Пад увагу былі прыняты больш за 2300 літаратурных крыніц.

Частка прафесійных мовазнаўцаў закідалі Піскунову «нелінгвістычны падыход»: ён, збіраючы матэрыял для слоўніка, адвольна ўносіў у яго словы з дыялектных збораў, сучасных выданняў, беларускіх сайтаў, мастацкіх твораў — якія падабаліся яму самому.

«Тыя, хто крытыкуе, звычайна яшчэ менш аб'ектыўныя, чым ён быў, — кажа Г.Цыхун. — У складанні слоўнікаў ад 1930-х пануе поўны суб'ектывізм. У савецкі час была тэндэнцыя на збліжэнне з расейскай мовай. І ўсе словы, неадэкватныя расейскім, запісваліся ў абласныя і дыялектныя. Піскуноў быў супраць такіх штучных падзелаў. Ён лічыў, што гэта збядняе мову. «Чым яны горшыя, тыя словы?» — казаў Піскуноў. Ён не зважаў на частотнасць ужывання таго ці іншага слова. У яго слоўніку зафіксаваны рэальны стан мовы на 2012 год. Таму ён такі шырокі».

Піскуноў склаў арфаграфічна-парадыгматычны слоўнік, у ім ёсць усе схемы і тыпы словазмянення — для тых, напрыклад, хто не пэўны, «вёскі» ці «вёсцы» трэба пісаць у родным склоне. У іншых славянскіх народаў — расейцаў, балгараў — такія слоўнікі ёсць, але ў беларусаў да Піскунова не было.

«Ён вельмі спяшаўся — таму і былі недакладнасці ў першым выданні слоўніка», — кажа Генадзь Цыхун. Частка накладу выйшла ў «Тэхналогіі», частка ў выдавецтве Змітра Коласа — агулам каля 230 штук. У кнігарнях засталіся адзінкавыя асобнікі.

Сярод яго задумаў было — зрабіць электронны тлумачальны слоўнік з дыскам-дадаткам, з якога можна было б загрузіць усе прыклады ўжывання словаў у розных значэннях. «З тлумачальным слоўнікам праца толькі-толькі пачынаецца, — кажа калега Піскунова Хрысціна Пучынская, якая апякуецца яго мовазнаўчай спадчынай. — Ёсць толькі падмурак».

Паводле яе словаў, зараз рыхтуецца перавыданне «Вялікага слоўніка беларускай мовы», а таксама з сабранага Піскуновым матэрыялу рыхтуецца «Адваротны слоўнік беларускай мовы» — працы з іх дзесяці на год.

**Сяргей Мікулевіч**


«КУЛЬТУРА»

**Хведар Піскуноў**

(1949—2013). Даследчык мовы. Нарадзіўся ў вёсцы Раманавічы на Гомельшчыне. Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1971). Стваральнік лінгвістычнай часткі праграмы праверкі беларускай арфаграфіі «Літара» (2004), электроннага слоўніка беларускай мовы «Парадыгма» (2009), «Вялікага слоўніка беларускай мовы» (2012). Пахаваны на радзіме.

## Сціслa

**У Мінск едзе легендарны The Offspring**

Яго канцэрт запланаваны на 28 мая ў «Мінск-Арэне». Каліфарнійскія панкі The Offspring — сапраўдныя героі 1990-х, чые песні дагэтуль гучаць на радыё і нават у рэкламных джынглах. Інфармацыя пра мінскі канцэрт змешчана на афіцыйным сайце гурту. Музыкі прэзентуюць свой новы альбом Days Go By. Квіткі на канцэрт каштуюць ад 300 да 900 тысяч рублёў.

**У Смаленску ствараецца беларускае зямляцтва**

У Смаленску адбыўся сход з нагоды адкрыцця рэгіянальнага прадстаўніцтва Таварыства беларускай мовы. Таксама прынята рашэнне аб стварэнні ў Смаленску філіі беларускага зямляцтва. Яно будзе названае імем Францыска Скарыны, у ім будуць вывучацца беларуская мова і культура, а таксама яно заклікана дапамагчы беларусам Смаленшчыны знайсці вучобу, працу і месца пражывання. Паводле перапісу насельніцтва ў 2010, беларусамі сябе назвалі 12012 жыхароў Смаленшчыны. У горадзе вучыцца 499 студэнтаў-беларусаў.

**«Песні героям» — будуць такія**

Канцэртна-выдавецкі лэйбл «Беларуская Музычная Альтэрнатыва» («БМАgroup») рыхтуе тэматычныя складанкі песень — «Песні героям» і «Сімвалы свабоды». Першы CD будзе прысвечаны знакавым постацям нашай гісторыі. Ужо ёсць песні-прысвячэнні Каліноўскаму, Багушэвічу, Купалу, Караткевічу, Багдановічу. Другая складанка — пра нацыянальныя сімвалы Беларусі: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». На адным CD будуць сабраныя творы выканаўцаў, якія звярталіся да гэтай тэмы. Далучыцца да стварэння дыскаў можа кожны. Прапаноўваць свае песні можна праз e-mail: skladanki@tut.by.

**«Аватар» па-беларуску**

У сацыяльных сетках, у вольным доступе, з'явіўся беларускі пераклад сусветнага кінахіта «Аватар». Пераагучыў яго па-беларуску Міхаіл Кучук, які трохі раней пераклаў фільм Дэні Бойла «Мільянер з трушчобаў». Фантастычная стужка Дэвіда Кэмерана апавядае пра барацьбу жыхароў планеты Пандора супраць бяздушных землянаў. «Аватар» атрымаў тры «Оскары», два «Залатыя Глобусы».

**Новы пасол пачаў з выставы**

У Вільні, у будынку Міністэрства замежных спраў, адчынілася выстава малюнкаў Адама Глобуса і відаў Вольгі Сазыкінай «Мінск—Вільня—Мінск». Арганізавала выставу мінская галерэя «Ў». Выстава прымеркавана да прызначэння ў Беларусь новага літоўскага пасла — Эвалдаса Ігнатавічуса, якога шмат хто ведае як паэта і крытыка. Першае слова на адкрыцці ўзяў міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус.

**ЮУ**

Польскі Інстытут у Мінску
Унітарнае Прадпрыемства «Кінавідэапракат» Мінгарвыканкама
Кінатэатр «Перамога»
EUROPA CINEMAS

# Ян Якуб Кольскі



## РЭТРАСПЕКТЫВА ФІЛЬМАЎ

## 22-27 красавіка

**Кінатэатр «Перамога»**
вул. Інтэрнацыянальная, 20

**Ян Якуб Кольскі** - адзін з найбольш вядомых, сучасных польскіх рэжысёраў аўтарскага кіно. У якасці рэжысёра ці аператара зняў больш за 30 стужак. Выкладае ў школе кінарэжысуры Анджэя Вайды. У фільмах Кольскага сучаснае пераплятаецца з мінулым, рэалізм з чарадзействам, хрысціянства з паганствам. Фільмы рэжысёра шматразова былі ўзнагароджаны на польскіх і міжнародных фестывалях.

**УВАХОД ВОЛЬНЫ.** Уваходныя квіткі можна атрымаць у касах кінатэатра перад пачаткам сеансаў. Тэл. 203-77-66

22 красавіка
Панядзелак, 19:00

### ГІСТОРЫЯ КІНО Ў ПАПЕЛАВАХ

Фэнтэзі, меладрама.
Польшча, 1998 г., каляр., 100 хв.

Узнагароды: 1999 – Узнагарода Польскай Кінаакадэміі «Арол» за лепшы польскі фільм 1998 года.
1999 – Узнагарода «Срэбны Віцязь» на МКФ праваслаўнага кіно «Залаты Віцязь» у Маскве.
1999 – Гран-пры МКФ у Трыесце. 1999 – Гран-пры МКФ у Жэневе.



25 красавіка
Чацвер, 19:00

### ПАДГРЭБАК

Меладрама.
Польшча, 1993 г., каляр., 75 хв.

Узнагароды: 1993 – Узнагарода ўсходнееўрапейскага сцэнарнага фонду.



23 красавіка
Аўторак, 19:00

### ЯЗМІН

Меладрама.
Польшча, 2006 г., каляр., 103 хв.

Узнагароды: 2006 – Спецыяльная ўзнагарода ФПМФ у Гдыні для Яна Якуба Кольскага.
2007 – Узнагарода Польскай Кінаакадэміі «Арол» за лепшую мужчынскую ролю для Януша Гаёса і за лепшую музыку для Зыгмунта Канечнага.
Прыз глядацкіх сімпатый для Яна Якуба Кольскага.



26 красавіка
Пятніца, 19:00

### ЯКІ ГРАЕ З ТАЛЕРКІ

Фэнтэзі, меладрама.
Польшча, 1995 г., каляр., 107 хв.

Узнагароды: 1995 – Узнагарода на МКФ у Токіа.



24 красавіка
Серада, 19:00

### ДАЛЕЙ АД ВАКНА

Драматычны фільм.
Польшча, 2000 г., каляр., 104 хв.

Узнагароды: 2001 – Гран-пры на ФПМФ у Гдыні.
2001 – Намінацыя на ўзнагароду «Святы Георгій» за лепшы замежны фільм на МКФ у Маскве.



27 красавіка
Субота, 19:00

### ВЕНЕЦЫЯ

Драматычны фільм.
Польшча, 2010 г., каляр., 110 хв.



Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь УНП 101184926

# У пошуках Айчыны

Пытанне, «**каму належыць** старажытная Літва», не мае сэнсу. Піша Алег Дзярновіч.



Сябра літоўскага рыцарскага клуба на фэсце ў Навагрудку.

Узяцца за гэты тэкст мяне падштурхнула пачуццё непаразумення, якое часам узнікала пасля публікацыі маіх тэкстаў. Так, артыкул «Літоўская мова ў Вялікім Княстве» быў успрыняты часткай чытацкай аўдыторыі як прасоўванне сучаснага літоўскага гістарычнага міфа. Хоць пры менш эмацыйным прачытанні ў гэтым тэксце можна было знайсці і спачувальнае да літоўцаў стаўленне — на літоўскай мове канцылярыя ВКЛ так і не выдала ніводнага дакумента, — але таксама і пачуццё павагі за тое, што гэты народ змог пранесці сваю архаічную мову праз стагоддзі ды зрабіць яе сучасным сродкам камунікацыі і творчага мыслення.

Ах, так, зусім забыўся — назва, вось што яшчэ можа так моцна раздражняць беларускіх чытачоў. Альбо па-іншаму — каму належыць старажытная Літва? Тут, магчыма, я сапраўды крыху вінаваты. Вінаваты ў тым, што не патлумачыў выразна сваёй пазіцыі на этнічнасць у данацыянальную эпоху. А сучасныя канцэпцыі этнічнасці дазваляюць пазбавіцца ад мазахісцкага пошуку сапраўдных продкаў.

Хто ж, напрыклад, насяляў Наваградак у XIII ст.? З пункта гледжання актуальнай сучаснасці, там жылі, безумоўна, продкі беларусаў. Але як вызначыць тое насельніцтва з пункта гледжання XIII ст. — гэты рэгіён Беларусі апынуўся на сутыку каланізацыйных хваляў дрыгавічоў, крывічоў і валынянаў, у самім горадзе яўна заўважаная сталая прысутнасць мазаўшанаў. А як жа з «літвой»? Пішу тут гэты тэрмін з малой літары і ў тым сэнсе, у якім ён ужываўся ў даўніх летапісах — як пазначэнне пэўнага этнасацыяльнага феномену. «Літва» ў рэшце рэшт, пасля дзесяцігоддзяў выплаты даніны «Русі», узяла пад кантроль Наваградак. Гэты акт быў пачаткам гісторыі той дзяржавы, якую мы ведаем як Вялікае Княства Літоўскае. Тая Літва займала добрую частку Панямоння і ўсю Віленшчыну, і ў далейшым з гэтай тэрыторыі сыходзілі многія культурныя імпульсы, што вялі да фармавання адметнасці краю, які сталі цалкам пазначаць як Беларусь толькі ў XIX ст.

Дык «літва» тут — знешняя, староння сіла ці фактар унутраных этнічных, культурных і палітычных працэсаў? Падобнае пытанне будзе дзіўным з еўрапейскай перспектывы. Не кажу пра гісторыкаў, але французскі школьнік не зразумее праблемы, бо ведае, што французскі этнас сфармаваўся ў выніку шматлікіх «мутацый» — спачатку, дзякуючы раманізацыі (лацінізацыі) мясцовых галаў, узнікла старафранцузская мова, потым, са з'яўленнем новай палітычнай эліты — германскага племя франкаў, — уласна і ўзнік старафранцузскі этнас, а таксама і назва краіны — Францыя.

Брытанская этнічная і моўная гісторыя выглядае яшчэ больш заблытанай. Кельцкая спадчына пакінула не так багата бачных слядоў, хоць кельцкія плямёны брытаў, якія далі назву краіне, упарта супраціўляліся пранікненню з Ютландыі (Паўднёвай Даніі) і Паўночнай Германіі англаў і саксаў. Заваяванне Брытаніі германскімі плямёнамі англа-саксаў цягнулася звыш 180 гадоў і скончылася на пачатку V ст. Мяркуецца, што колькасць брытаў да пачатку заваявання складала каля 2 млн, а колькасць англа-саксаў — не больш за 200 тыс.

Уварванні вікінгаў (данаў) дадалі ў будучы англійскі этнас новую генетыку і некаторыя прававыя нормы.

Ужо знаёмы нам моўна-этнічны ландшафт Англіі сфармаваўся пасля заваёвы нарманамі ў 1066 г. Былыя вікінгі, якія напалі на Брытанію з Францыі, прыўнеслі ў Англію французскую мову, бо на ёй ужо размаўлялі. Праз доўгі час нармана-французская заставалася ў Англіі моваю царквы, адміністрацыі і вышэйшых станаў. Але паступова сярэднія і дробныя землеўласнікі з англа-саксаў набывалі ўсё большую вагу, у тым ліку праз дэмаграфічную перавагу. Замест панавання нармана-французскай мовы паступова складаўся «моўны кампраміс», нараджаўся лінгвістычны феномен, які мы сёння называем англійскай моваю. 60% яе слоўнікавага фонду складаюць французскія словы, хоць па частотнасці ўжывання германская лексіка англа-саксонскіх продкаў англічанаў пераважае.

Я не вялікі прыхільнік вытлумачэння гісторыі праз метад аналогій. Але збочыў на гэты шлях, каб паказаць, што беларускі прыклад этнічнай гісторыі мала што не ўнікальны, але і не з'яўляецца самым складаным. Праблема — у прачытанні гэтага гістарычнага досведу і яго інтэрпрэтацыі.

Пакуль у Беларусі сярод гуманітарыяў пануе прымардыялізм. Гэтая канцэпцыя разглядае этнас як першапачатковае і нязменнае аб'яднанне людзей «па крыві», сцвярджае, што ў таго ці іншага народа захоўваюцца стабільныя характарыстыкі этнічнасці. Найчасцей такім этнічным ядром у нашай гісторыі акрэсліваецца «Русь» — з усім яе комплексам рэлігійна-культурных прыкметаў. І гэтая «русінская» традыцыя, сапраўды, вельмі глыбокая ў культурнай гісторыі Беларусі. Але часта забываюць, што і сама «рускасць» была выбудаваная на абшарах Усходняй Еўропы скандынаўскай элітай з дапамогай імпартаваных з Візантыі і Балканаў культурных комплексаў. Вядома, у XIV—XVI стст. гэта была ўжо ўкаранёная на нашых землях традыцыя, якая істотна розніласа ад маскоўскай, але лучыла беларускія землі з Украінай.

Вяртаемся да праблемы — што рабіць з «Літвой», ладны кавалак якой знаходзіўся на тэрыторыі сучаснай Беларусі? Але больш важнае тое, што менавіта з Літвой звязаная цэлая плойма культурных імпульсаў і трансфармацый, што паўплывалі на Русь і спрычыніліся да фармавання самой Беларусі.

У супрацьвагу маім выкладкам можна сказаць, што, у адрозненне ад французскіх і брытанскіх мадэляў фармавання этнасу, на спадчыну Літвы маецца і іншы прэтэндэнт — сучасная Літоўская Рэспубліка. Што ж, і гэты прыклад не ўнікальны. Франкская імперыя Карла Вялікага падзялілася, даўшы пачатак тром сучасным нацыям-дзяржавам — Францыі, Германіі і Італіі. Саксонія ж, з тэрыторыі якой саксы перасяляліся ў Брытанію, доўгі час існавала ў Еўропе як суверэнная дзяржава ў рамках Святой Рымскай імперыі нямецкай нацыі.

## Этнас не ёсць адпачатковай дадзенасцю, ён канструюецца людзьмі

Але, праўда, ёсць адзін сапраўды сур'ёзны контраргумент да нашых развагаў пра «Літву» і «Русь». Культурныя дыфузіі «Літвы» і «Русі» адбываліся пазней, чым падобныя французскія ці брытанскія: у познім Сярэднявеччы. А вынікі гэтых працэсаў ужо ў раннім Новым часе (XVI—XVIII стст.) успрымаюцца як зусім актуальныя — і сёння на старонках беларускіх выданняў не сціхаюць спрэчкі пра дзяржаўныя і рэлігійныя уніі, пра рэлігійныя канверсіі эліт, пра паўставанне і лёс нацыянальных моў... Ды і пісьмовых сведчанняў, у тым ліку і палемічных, гэтыя з'явы эпохі кнігадрукавання пакінулі значна больш. Меншы прамежак часу і пазасталы прысмак палемікі актуалізуюць у свядомасці падзеі чатырохсотгадовай даўніны і ствараюць урадлівую глебу для спекуляцый на гістарычныя тэмы. Увогуле, гэта інструментальнасць гістарычнай веды ёсць адметнасцю гістарычнай свядомасці нашага рэгіёна Еўропы.

Падобныя супярэчнасці этнічнага цела выдатна разумелі аўтары праекта беларускай нацыі XIX — пачатку XX стст. Зрэшты, яны не проста разумелі праблемы складання гэтай мазаікі. Пэўная падзеленасць — канфесійная, шрыфтавая (паміж лацінкай і кірыліцай), палітычная — была іх штодзённай культурнай практыкай. Злучыўшы «Літву» і «Русь», прызнаўшы, што гэта і ёсць наша нацыянальная гісторыя, пратаганісты Беларусі палітычную праблему пераўтварылі ў культурны патэнцыял. І гэтая дзейнасць «стваральнікаў» (пачынальнікаў) Беларусі кладзецца ў рэчышча канструктывізму — сучаснага разумення тэорыі этнасаў, процілеглага прымардыялізму. Паводле канструктывістаў, этнас не ёсць першапачатковай дадзенасцю. Этнічнасць «канструюецца» самімі людзьмі ў працэсе іх творчай сацыяльнай дзейнасці — пастаянна пацвярджаецца ці пераглядаецца, перабудоўваецца.

Можна пэўна сцвярджаць адно палажэнне — сам факт гарачых дыскусій на тэму «Літвы» і «Русі» сведчыць, што беларуская гісторыя позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу можа быць зразуметая толькі як узаемадзеянне гэтых двух фактараў. Прыбяры адзін з іх — і беларуская гісторыя будзе зусім іншай. Фактычна, яна рассыплецца.

## ХАКЕЙ

### Беларусь — Славаччына

**12 красавіка ў Жлобіне** ў рамках хакейнага Еўравыкліку сустрэнуцца Беларусь — Славаччына. Пачатак а 19:00. Праз дзень гэтыя самыя каманды падужаюцца ў Бабруйску. Пачатак а 17:00.

## ФУТБОЛ

### 3 і 4 туры

У нацыянальным першынстве сустракаюцца **13 красавіка:**
«Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Брэст);
БАТЭ (Барысаў) — «Белшына» (Бабруйск);
«Мінск» — «Славія» (Мазыр);
«Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Мінск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Гомель».
**17 красавіка** падужаюцца:
«Дынама» (Брэст) — «Гомель»;
«Тарпеда-БелАЗ» — «Шахцёр»;
«Дынама» (Мінск) — «Нафтан»;
«Славія» — «Дняпро»;
«Белшына» — «Мінск»;
«Нёман» — БАТЭ.

## КАНЦЭРТЫ

### Dzivasil

**11 красавіка а 19-й у «Графіці»** — праект Dzivasil.

### «Машына часу»

**13 красавіка ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў,4)** пройдзе канцэрт расійскага гурту «Машына часу». Пачатак а 19-й.

### Re1ikt

**14 красавіка а 20-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — сольны канцэрт гурту Re1ikt.

### Recha

**14 красавіка а 19-й у «Графіці»** — канцэрт гурту Recha.

### Адзіс-Абеба

**15 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — выступае гурт «Адзіс-Абеба».

### The UNB

**19 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — рок-гурт The UNB.

### Мандалінісіма

**17 красавіка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — аўтарскі канцэрт кампазітара і мандалініста Вінсэнта Бір-Дземандзера (Францыя).

## ІМПРЭЗЫ

### «Вальс кветак»

**13—14 красавіка ў Палацы прафсаюзаў (пр.Незалежнасці, 25)** пройдзе выстава котак «Вальс кветак».

### RUSH-2013

**13—14 красавіка на скаладроме Рэспубліканскага Цэнтра турызму (Лук'яновіча, 18)** — фестываль скалалазання RUSH-2013! У праграме: 25 трас і тры гадзіны фестывальнага лазання.

### Аматэрасу

**14 красавіка ў 13.30 у ДК МТЗ (Даўгабродская, 24)** — чарговы беларускі канвент аматараў сучаснай японскай, карэйскай і кітайскай культуры і анімацыі «Аматэрасу». Конкурс азіяцкай культуры «Аматэрасу» праводзіцца штогод як культурна-забаўляльнае мерапрыемства, якое дае магчымасць раскрыць творчы патэнцыял моладзі, якая захапляецца культурай Азіі і японскай анімацыяй.

## ВЫСТАВЫ

### Крок у змрок

**Да 13 красавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе персанальная выстава Уладзіміра Лапо, на якой прэзентуюцца творы графікі розных гадоў і скульптура, выкананая ў тэхналогіі прамога ліцця.







### «Дзяды»

**Пастаноўка па адной з самых вядомых кніг Адама Міцкевіча.** Класіка — якая актуальная і сёння. Гэта наша з вамі гісторыя — гісторыя барацьбы за каханне, свабоду і шчасце. Містыка і забабоны, крывавая помста і неверагодныя рамантычныя пачуцці. Жорсткая іронія і бязлітасна агаленыя эмоцыі. Бітва д'ябальскіх сіл і святара за чалавечую душу. Гісторыя, якая разгортваецца на фоне самага таямнічага і змрочнага абраду «Дзяды» і цесна пераплятаецца з ім. Рэжысёр — Рамунэ Кудзманайце. Ролі выконваюць: Раман Падаляка, Алесь Малчанаў, Юрый Жыгамонт, Святлана Анікей, Вераніка Буслаева, Сяргей Краўчанка, Вольга Курэйчык, Андрэй Саўчанка, Дзмітрый Тумас, Максім Кавалеўскі, Іван Трус, Надзея Анцыповіч, Юлія Кадушкевіч, Генадзь Гаранскі, Таццяна Гуляева.
**17—18 красавіка. ДК Прафсаюзаў.** Білеты — 30000 — 150000.

### Беларусь: у абдымках зорак

**Да 13 красавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава фатаграфій Віктара Малышчыца «Беларусь: у абдымках зорак».

### Два колы

**Да 14 красавіка ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Два колы», на якой прадстаўленыя ровары і матацыклы Мінскага мотавелазавода 50—80 гг. XX стагоддзя.

### Паўстанне 1863—1864

**Да 14 красавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Паўстанне 1863—1864 гг.», на якой прадстаўлена звыш 30 арыгінальных гравюр з французскага часопіса Le Monde illustrè, друкаваныя выданні і рукапісныя дакументы — апублікаваныя ўспаміны сучаснікаў падзей, творы грамадска-палітычных дзеячаў, гістарычныя даследаванні, узоры фалерыстыкі і сфрагістыкі.

### Георгій Скрыпнічэнка

**Да 20 красавіка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Георгій Скрыпнічэнка. Графіка». У графіцы Георгія Скрыпнічэнкі ёсць не толькі звышрацыянальная чуласць, але надзвычай тонкае валоданне майстэрствам намёку, каштоўнасць аўтарскай мастацкай мовы — у «недагаворанасці», «схаваных сэнсах», што надаюць яго работам шматзначнасць.

## ТЭАТРЫ

### 11 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Оперы і балета** — «Трытан і Ізольда. Балеро»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 12 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 13 красавіка

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 14 красавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 16 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Няззваны госць»
**Оперы і балета** — «Жыціе вялікага грэшніка»

### 17 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Нью! Хэпі валентайн!»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Оперы і балета** — «Жыціе вялікага грэшніка»

### 18 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 19 красавіка

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 20 красавіка

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 21 красавіка

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

## КІНО

### «Злавесныя мерцвякі: чорная кніга»

**Жанр:** жахі
**Рэжысёр:** Федэрыка Альварэс
**Акцёры:** Шайла Фернандэз, Лу Тэйлар Пучы, Джэсіка Лукас, Джэйн Леві, Элізабэт Блэкмар
ЗША, 2013 г., 95 хв.

Мія — маладая дзяўчына, якая пакутуе ад нарказалежнасці, выпраўляецца са сваімі сябрамі Дэвідам, Алівіяй, Эрыкам і Наталі ў дачны домік, які знаходзіцца ў глухім лесе. У падвале старога катэджа героі знаходзяць Кнігу Мёртвых. Прачытаўшы некалькі радкоў, яны абуджаюць ад сну старажытнае зло гэтай зямлі. З магіл устаюць мерцвякі, якія прагнуць жывой плоці. Цяпер падлеткі павінны выратавацца ад лап вар'ятаў-зомбі. Але куды бегчы з гэтага пекла?



# Беларускія навукоўцы вынайшлі шкло і кола

А сенатар Песціс запантэнтаваў **каляску для перавозкі пчаліных вуллёў.**

Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці працягвае штогод рэгістраваць сотні патэнтаў. Беларускія навукоўцы ахопліваюць самыя разнастайныя галіны — ад сельскай гаспадаркі да аховы здароўя. Летась у каталог было дадзена 1423 вынаходніцтвы. «НН» знайшла самыя цікавыя з іх.

### Выкопваючы орган ад рэктара

Сярод безлічы навуковых тэрмінаў вока выхоплівае вынаходніцтва шкла. Вікіпедыя кажа, што ў старажытным Егіпце шкло выкарыстоўвалі яшчэ пяць тысяч гадоў таму... Аднак Людміла Папко, Іван Лявіцкі і Ганна Галібарава (усе з Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта) вынайшлі сваё шкло. Для гэтага трэба «дадаткова звыш 100% дадаць, прынамсі, адзін кампанент» з васьмі варыянтаў. Аксід медзі, альбо аксід хрому, альбо аксід марганцу і гэтак далей.

Апроч шкла, беларускія навукоўцы вынайшлі і кола. Але не простае, а павышанай праходнасці.

**Што яшчэ вынайшлі беларускія навукоўцы?***

Зліўны бачок

Дах

Паўфабрыкат мясны сечаны

Транспартны светлафор

Чайнік

*назвы патэнтаў, выдадзеных у 2012 годзе

**Што трэба для атрымання патэнта?**

1) заява на выдачу патэнта;

2) апісанне вынаходніцтва, якое раскрывае яго з паўнатой, дастатковай для ажыццяўлення;

3) формула вынаходніцтва, якая выражае яго сутнасць і цалкам заснаваная на апісанні;

4) чарцяжы ці іншыя матэрыялы, калі яны неабходныя для разумення сутнасці вынаходніцтва;

5) рэферат.

Для гэтага збоку шынаў да дыска прымацоўваецца па адным канічным абадку.

Побач у каталогу знаходзім іншыя цікавыя вынаходніцтвы, напрыклад, «выкопваючы працоўны орган бульбаўборачнай машыны». Адзін з яговых аўтараў — новапрызначаны рэктар Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта (БДАТУ) Іван Шыла.

### Сямейны клопат пра пчол

Не цураюцца рацыяналізатарства і больш высокія прадстаўнікі ўлады. Член савета рэспублікі і рэктар Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта, заснавальнік «Белай Русі» Вітольд Песціс паўдзельнічаў у стварэнні каляскі для перавозкі пчаліных вуллёў са светласігнальным абсталяваннем. Разам з ім вынаходніцтвам займаўся і сын Павел. Ён, дарэчы, летась спрычыніўся да вырабу рамкі пчалінага вулля з дадатковай планкай.

Таксама быў вынайдзены і новы «спосаб нанясення мастацкай выявы». Калі вы спачатку насуха



Вітольд Песціс удасканаліў каляску для перавозкі вулляў светасігнальным абсталяваннем. На фота: яшчэ не ўдасканаленае.

праціраеце паверхню, а ў якасці клеявога раствору змешваеце клей ПВА і акрылавы лак фактычна ў любых прапорцыях, ведайце: гэта насамрэч прыдумала Таццяна Папова з кампаніі «Бэст-Ост».

А ў Палескім аграрна-эканамічным інстытуце Акадэміі навук група з чатырох эксперыментатараў фармулявала рэцэпт безалкагольнага збітню. Атрымалася тры варыянты. У выніковай масе мусіць быць 20% натуральнага мёду, 77—78% вады, а рэшта — карыца, шматлікія травы, свежыя ці замарожаныя чарніцы... Выглядае смачна. Як, зрэшты, і бульбяны збіцень, рэцэпт якога вынайшлі ў БДАТУ. Напой атрымаўся алкагольным.

### Парады для здаровага цела

У пазалеташнім аглядзе патэнтаў «НН» пісала пра Віктара Кунавіна, які распрацоўвае фізічныя практыкаванні. Што ж, ні года без патэнтаў. Для аматараў здаровага ладу жыцця ён гатовы прапанаваць новую позу. Спачатку станьце на калені, ногі шырэй за таз, ступні выверніце вонкі, абапіраючыся тыльнымі паверхнямі вялікіх пальцаў аб падлогу, і апусціце рукі ўздоўж цела. Цяпер пачынаем практыкаванне: павольна ўдыхніце, нахіліце галаву назад, выпінайце грудзі ўверх, рукі і плечы цягніце ўніз да дотыку каленяў. У такой позе трэба крыху патрымацца, вярнуцца ў пачатковы стан і пачаць практыкаванне зноў.

Ягоны калега па навуцы Уладзімір Шэлемаў таксама мае з дзясятак патэнтаў. Некалькі гадоў таму ён прыдумаў шматслойную сцілку, а цяпер палепшыў жыццё беларусаў вынаходніцтвам падушкі. Яе апісанне займае два радкі — набіваць чахол трэба жытнім вотруб'ем. Падыдзе таксама ячменнае ды аўсянае.

На жаль, статыстыкі наконт таго, колькі з вынаходніцтваў знайшлі рэальнае ўвасабленне, не існуе. Многія з патэнтаў застаюцца ляжаць на паліцы і радуюць толькі сваіх аўтараў.

**Ягор Марціновіч**



Жыхары Самоа, як і ўсёй Акіяніі, схільныя да атлусцення.

Транспарт

## Больш важыш — больш плаці

У **схільным да атлусцення** Самоа пайшлі на цікавую рэформу.

Традыцыйна, купляючы білет, мы плацім за месца, незалежна ад таго, колькі важыць чалавек. Авіякампанія ціхаакіянскай дзяржавы Самоа вырашыла ўвесці іншы прынцып: pay-as-you-weigh — плаці па вазе.

Авіякампанія абгрунтоўвае сваё рашэнне тым, што пры новай сістэме падліку многія пасажыры выйграюць у цане.

«Авіяцыйная галіна сыходзіла з таго, што людзі ва ўсім свеце важаць аднолькава», — тлумачыць менеджар Samoa Air Крыс Лангтан. — Між тым самалёты ж могуць несці толькі вызначаную нагрузку, незалежна ад колькасці месцаў».

Тое, што такое пытанне паўстала ўпершыню на астраўной дзяржаве, невыпадкова. Генетычна жыхары Палінэзіі вельмі схільныя да атлусцення. Жыхары Самоа — іх 170 тысяч — займаюць 4-е месца ў свеце па долі атлусцелых у насельніцтве. Іх на Самоа 60%. З распаўсюдам цукру на астравах распаўсюдзілася цукроўка, на якую хварэе вялікая доля насельніцтва.

На Самоа два галоўныя астравы. Расцэнкі на палёты ўнутры краіны складаюць $0,57 за кілаграм пасажыраваґі. Адзіны міжнародны палёт кампанія выконвае на суседнюю тэрыторыю, у Амерыканскае Самоа. За гэтае падарожжа на адлегласць 402 км трэба заплаціць $1,03 за кілаграм пасажыраваґі.

**СГ**

Ідэі

## Як студэнты зарабляюць на беларускую мару

Ці можна **прадаваць пустэчу**?

Два беларускія студэнты вырашылі рэалізаваць беларускую мару: зарабіць на кватэру ў панэльным доме, «Фальксваген Пасат», дыплом беларускай ВНУ і мех бульбы. Ідэю запазычылі ў брытанца Алекса Т'ю. Ён стварыў сайт milliondollarhomepage.com, што ўяўляў сабой поле для рэкламы памерам мільён пікселяў. Пры гэтым мінімальную куплю складаў квадрат у 10х10 кропак па цане $1 за піксель. На гэтай прасторы пакупнік мог змясціць любую выяву, якая ўяўляла сабой вечную гіперспасылку на свой сайт. Пры гэтым забаранялася перапрадаваць выкупленыя пікселі, але ж і дадаткова нічога з цягам часу даплочваць не трэба.

Беларускі аналаг брытанскага сайта мае своеасаблівы нацыянальны каларыт: фотаздымак бульбы на падкладцы, беларускі арнамент і сімвалічную зялёна-чырвоную назву. Ёсць яшчэ адна асаблівасць — гэта кошт. Нашы студэнты прадаюць месца на belarusdream.by значна танней: піксель у іх каштуе не $1 даляр, а ўсяго 1000 беларускіх рублёў. Мінімальная купля павінна складаць квадрат 10х10 пікселяў за 100 тысяч беларускіх рублёў.

Сайт існуе з канца 2012 года, але ж займаюца ім хлопцы сталі зусім нядаўна. За гэты час месца пад рэкламу купілі 7 чалавек. Аднак стваральнікі сайта ўпэўненыя, што рэалізацыя беларускай мары — справа часу.

**Мікіта Нікулін**

Сціслa

### У Еўрасаюзе 40% дзяцей нараджаюцца па-за шлюбам

У краінах Еўрасаюза працягвае зніжацца колькасць шлюбаў. Адначасова расце колькасць дзяцей, народжаных па-за шлюбам. У 1990 годзе такіх дзяцей было 17%, а ў 2011 годзе ўжо 40%. Найбольш дзяцей нараджаецца па-за шлюбам у Эстоніі (60%), Славеніі (57%), Балгарыі і Францыі (па 56%), а найменш у Грэцыі (7%), Польшчы (21%).

### На хакейны чэмпіянат патрэбныя 1050 валанцёраў

Дырэкцыя Чэмпіяната свету па хакеі—2014, які адбудзецца ў 1050 добраахвотных памочнікаў. Яны пройдуць праграму навучання і атрымаюць форму.

### «Белпошта»: Адпраўленні з Кітая і Ганконга займаюць 20%

Па словах намесніка генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях «Белпошты» Таццяны Гвоздзевай, з усёй пошты, якая прайшла мытнае афармленне, 60% — гэта тавары, набытыя ў інтэрнэт-крамах. Беларусы замаўляюць шмат рэчаў з Кітая — на гэтым можна добра ашчадзіць ці нават зарабіць на перапродажы.

**ЯМ**


СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ

**Аўтар гэтай карціны — Ігар Кебец. Называецца яна «Дуб паўстанцаў на Святым балоце». «Гэта адна з самым удалых выяваў, прысвечаных героям Паўстання 1863–1864, — пішуць у сваім Фэйсбуку стваральнікі «Гарадзенскай бібліятэкі». — Аўтар — малавядомы гарадзенскі мастак Ігар Кебец. Блізу Гродна, паміж Берштамі і Азёрамі, ёсць Святое балота. У цэнтры гэтага балота была гара, на якой стаяў векавечны дуб. Тут хаваліся паўстанцы атрада палкоўніка Лянкевіча, але іх выдалі, і расейскія войскі атачылі Святое балота. Яны не ведалі, як дабрацца да дуба праз багну, і вырашылі трымаць аблогу. Але паўстанцы, якім была наканавана галодная смерць, не здаліся. 22 красавіка 1863 года адбыўся бой, у якім амаль усе каліноўцы загінулі. Пасля таго людзі і далі назву балоту — Святое. У міжваенны час сюды, пад дуб, прыязджалі людзі, каб ушанаваць памяць герояў, маліліся пад вялікім крыжам».**




**Праліўныя дажджы затапілі аргенцінскі Буэнас-Айрэс. Магутны шторм крышыў дамы, валіў дрэвы і перапыніў электразабеспячэнне. Катастрофа забрала жыцці пяці чалавек.**


ВОЛЬГА ГАРАПЧУК

**У Нацыянальным мастацкім музеі прайшоў першы сезон MSK Fashion Week, новы фэст для мадэльераў і дызайнераў.**



СЯМЕН ПЕЧАНКО

**Чэрвеньскі рынак у Мінску запрацаваў на новым месцы. Ён размясціўся насупраць Лошыцкага парку. Некаторыя гандляры пачалі працу са зніжак.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Народная прыкмета: калі да ліпеня снег не сыдзе — лета будзе кароткім!

* * *

Галодны кот — найлепшы будзільнік!

* * *

Бабуля, якой адразу саступілі месца ў тралейбусе, не ведала, пра што размаўляць наступныя пятнаццаць хвілін.

* * *

Умовай пабудовы новага офіса «Белтрансгаза» ў Мінску беларускі бок паставіў перайменаванне «Газпрама» ў «Газпрам Беларусі і Расіі».

* * *

Вясна... Снег у горадзе сыходзіць, а асфальт яшчэ не нарос. Як ездзіць?

* * *

У кавярню заходзіць чалавек з сабакам і заключае з наведнікамі пары, што яго сабака зараз будзе гаварыць. Але сабака маўчыць. Чалавек аплачвае заклад і сыходзіць пад агульны рогат.

— З-за цябе я прайграў кучу грошай! — кажа гаспадар сабаку. — Чаму ты не загаварыў?

— Дурань! — адказвае сабака. — Ты толькі ўяві, колькі грошай мы заграбём заўтра.

* * *

Новы пункт у Правілах дарожнага руху: «У выпадку аварыі вінаваты кіроўца BMW».

* * *

— Людзі кажуць, што я занадта старамодны.

— Хто, напрыклад?

— Мае прыгонныя ў маёнтку.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Птушыная помста.** Расказваюць, што ў адным з двароў каля Гродна быў гусак і пятух, каторыя заўсёды біліся. Адзін раз раніцай гусак схапіў петуха за шыю і пацягнуў да блізкага ставу і давай тапіць петуха, пакуль той не захлібнуўся ў вадзе.

**«НН». №15. 1913.**

**З апярэджаннем клімату.** Урад — што той дачнік. Стаіць на сваіх прамерзлых сотках ды думае, што б такое пасадзіць сёлета, каб урадзіла суседзям на зайздрасць. Пасяўная ўсё ніяк не пачнецца па-сапраўднаму: сонейка няма. Летась у гэты час засеялі амаль трацiну палеткаў, сёлета — толькі 5%.

**«НН». №14. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8007. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 09.04.2013.
Замова №1595.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12